«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (187), сакавік 2022 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 3 (187) (сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online

Змест





# Вечна жыві!



Фота thepage.ua

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

## Любоў мая — Украіна

*Маньяк пельку страху на свет накінуў*
*І ўсім пагражае гарачай вайной...*
*Смяротна бароніцца Украіна,*
*Хоць цяжка за волю змагацца адной.*

*А людзі абачлівымі не сталі,*
*Усё, што святое, загналі ў тавар.*
*Калі вылазяць то «гітлер», то «сталін»,*
*Душы́ць у зародку патрэбна пачвар.*

*Вар'яты гульню пачалі не ўчора,*
*Трымцеў кволы мір кожны год на мяжы.*
*Было прадчуванне крыві і гора,*
*Калі заклінаў я: «Сябе беражы!»*.*

*Яна духам, песняй святой жывая,*
*Красой маладой паўстае прада мной...*
*Такая нянавісць душу разрывае,*
*Што я за яе змог бы кінуцца ў бой...*

*Мне верыцца: ворагі нелькі згінуць,*
*Яны захлібнуцца ва ўласнай крыві...*
*Любоў мая, мужная Украіна,*
*Не стань на калені, вечна жыві!*

**С. Законнікаў — аўтар верша «Беражы сябе, Украіна» (1996), перакладзенага многімі паэтамі Украіны.*

***25 лютага 2022***

Олександр ІРВАНЕЦЬ

***

*З міста, що ракетами розтрощене,*
*До усього світу прокричу:*
*Цього року у Неділю Прощену*
*Я, здається, не усіх прощу!*

*Світе-світе, гарно ти нас кинув!*
*Та у пеклі цих страждань-терпінь*
*Все ж стоїть золотоверхий Київ,*
*Буча, і Гостомель, і Ірпінь.*

*Ми усе здолаємо і вистоїм!*
*Потім ще і рештки приберем*
*Тих усіх, котрі були тут прислані*
*Вузькооким лисим упирем.*

*З вами й я і вистою, й вцілію,*
*Як у землю рідну міцно впрусь.*

*Я ніколи не прощу Росію.*
*...Чом відводиш очі, Білорусь?*

***26 лютага 2022***

Серж ЖОРЖ

***

*Я веру!*
*Віслы людскія, Дняпры і Дунаі*
*Адчаем віруюць, горам сплываюць*
*Ад Пшэмысля да Катавіцы і Вавы*
*Гальфстрымам крывавым...*
*Ракеты на галавы, бомбы і міны...*
*Грыміць Украіна, стаіць Украіна.*
*Цэрквы гараць, але Бог ёсць у сэрцах,*
*Бітва за волю — бітва да смерці!*
*У пекле пажараў, у сажы і дыме —*
*Мая Украіна, другая радзіма.*
*Зламаем хрыбет ашалеламу звeру,*
*Мацуемся разам надзеяй і верай!*

***9 сакавіка 2022***

Валянціна АКСАК

## Перад канцом свету

*У дзень,*
*калі пачалася*
*трэцяя ўсясветная,*
*адзін знакаміты майстар*
*па наладжванні зроку*
*зрабіў мяне*
*добра відушчай.*
*Увесь гэты час*
*пасля той сустрэчы*
*з чараўніком*
*лазера і скальпеля*
*я думала пра марнасць*
*медычнага поспеху.*
*Навошта цяпер мне*
*шматколернасць неба,*
*якое так раптам*
*згубіла вясёлку.*
*Сёння ўрэшце даўмелася,*
*што спраўныя рукі*
*вочнага эскулапа*
*падарылі мне шанец*
*убачыць*
*канец*
*гэтага*
*чорнага*
*свету.*

Усевалад СЦЕБУРАКА

***

*Хацелі быць трэцім рымам,*
*а сталі чацвёртым рэйхам.*
*Жыццё праляцела міма*
*з шалёным сабачым брэхам.*

*Хацелі мацней у балеце,*
*хацелі сады на марсе.*
*Гагарын ляцеў на ракеце...*
*Ўсё знікла ў крывавым фарсе.*

*І зноўку пад кірзавым ботам*
*зямля захлынецца ад болю.*
*І ўсё адкладзецца на потым*
*і не надыдзе ніколі...*

***14 сакавіка 2022***

Сяргей ВАГАНАЎ

## Кесарава сячэнне

*Я нарадзіўся ў Марыупалі*
*пад бомбы спавівальны выбух...*

*Мая матуля побач з трупамі*
*Сястрычак, брацікаў застылых*
*Мяне сваім хавала целам*
*Ад быццам «юнкерсаў» і «мессэраў»...*

*І ў вочы кесару глядзела,*
*Як той рабіў сячэнне кесарава...*

*Над намі ў небе страшна грукалі*
*стагоддзі — бой крывавы ладзілі...*

*Я нарадзіўся ў Марыупалі,*
*як некалі — у Сталінградзе...*

***15 сакавіка 2022***

Наста КУДАСАВА

***

*драпае цемра скарынкай чэрствай,*
*сочыцца ў горла кармін.*
*за чалавечае слова «зверства»*
*сорамна перад звярмі.*
*не пракаўтнуць гэты хлеб драпучы.*
*верыш, таварыш маёр?*
*там, у падвалах пякельнай Бучы,*
*сэрца сканала маё.*
*больш не кране яго шэпт надзеяў,*
*«градаў» выццё, патрулі...*
*мабыць, нарэшце распавядзе мне*
*той, хто мяне акрыліў,*
*што мне рабіць з расстраляным*
*пер'ем,*
*з вывернутасцю ключыц?*
*лепей бы ўшчэнт скасаваць мой*
*тэрмін*
*тут. і сусвет адключыць.*
*лепей бы я паважаным зайцам*
*бегла ў вясну з усіх лап,*
*чым гэты боль чалавекам звацца.*
*лепей я зверам была б.*

***16 сакавіка 2022***

# Ад БНР — да Беларусі



Генрых ДАЛІДОВІЧ

У ноч з 6 на 7 студзеня 1918 года ленінскі ўрад разагнаў Устаноўчы Усебеларускі з'езд — «вчерашний день революции»: на гэты форум трапіла мала бальшавікоў, там загучаў зусім не бальшавіцкі тон, адпаведна ў выніку ўлада законна магла перайсці да кааліцыі, дзе бальшавікі былі б у меншасці, і былая Расійская імперыя пайшла б далей не ленінскім шляхам.

Савецкі ўрад нанёс паражэнне не толькі народнаму волевыяўленню, але парламентарызму і дэмакратыі, ступіў на сцяжыну да сваёй дыктатуры.

Беларускі рух, што да снежня 1917 года набыў досыць значны размах і мог на законным грунце аформіцца ў нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт краю, з-за мяснікоўскага насілля апынуўся ў крызісе: той-сёй з відных дзеячаў марнеў за кратамі, іншыя мусілі пайсці ў глыбокае падполле.

Тыя беларускія дзеячы, хто ацалеў на волі, на тайных сходах пастанавілі: 1) Першы Усебеларускі з'езд разагнаны мяснікоўцамі незаконна; 2) Савет / Раду з'езда прызнаць выканаўчым органам з'езда, і яна, Рада, павінна ажыццяўляць усе пастановы з'езда; 3) папоўніць Раду і даць права адводу, адклікання і каалтацыі; 4) БАК і іншыя беларускія суполкі неадкладна спыняюць сваё існаванне і перадаюць усе свае справы, маёмасць Радзе; 5) Цэнтральная вайсковая рада існуе як падпарадкаваны орган Радзе з'езда; 6) 2-гі Усебеларускі з'езд склікаецца ў найбліжэйшы час і г.д.

Новае папаўненне (а ў ім былі вельмі вядомыя на той час у Менску людзі, скажам, былы галава гарадской думы) ва ўмовах, што склаліся, спакваля пачало прыбіраць беларускі рух у свае рукі, асабліва эсэры. Якраз яно перад наступленнем Доўбар-Мусніцкага і немцаў склала спіс Народнага сакратарыята Беларусі — па яго словах, «урада, які цяпер мусіць абараняць інтарэсы дэмакратыі».

Народны сакратарыят прыняў рэзалюцыю:

*«Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы сталі перад тым, што край можа быць заняты нямецкімі войскамі.*

*Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здзейсніць сваё права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меншасці — на нацыянальна-персанальную аўтаномію.*

*Правы нацыі павінны знайсці сваё здзяйсненне шляхам склікання на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму».*

Мінск чарговы раз стаў у цэнтры ўвагі не толькі расійскай, але і еўрапейскай грамадскасці: сюды накіраваліся немцы, сюды заспяшаўся Доўбар-Мусніцкі, каб першым увагвацца ў горад і падаць яго немцам як даўняе польскае «място», адпаведна адразу ж вылучыўшы і тут польскае пытанне.

Доўбар-Мусніцкі меў перавагу і значную, але не рызыкнуў спажыць яе перад носам у немцаў, якія адносіліся да яго падазрона, мусіў лічыцца з Народным сакратарыятам, падзяліўшы з ім горад на сферы ўплыву.

Што загадаем рабіць у гэтых умовах Народнаму сакратарыяту? Апусціць нос, далей не дбаць пра свой люд, чакаць выніку нямецка-бальшавіцкіх варункаў? Бясспрэчна, той выбраў адзіна правільны шлях: дзейнічаць у падполлі.

Падпольныя сходкі Рады снежаньскага з'езда, Народнага сакратарыята праходзілі са спрэчкамі. Яны, спрэчкі, ішлі вакол цэнтральнага і самага хвалюючага ды балючага: што і як рабіць, на каго цяпер арыентавацца?

Неўзабаве выпрацавалі і прынялі Другую Устаўную Грамату, дзе ўжо канкрэтызавалі свае арыенціры:

*«1. Беларусь у рубяжох рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народа абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.*

*<...> 5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, безумоўная свабода сумлення, незачэпнасць асобы і памяшкання.*

*<...> 7. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі права прыватнае ўласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, што самі на ёй працуюць».*

Зразумела, гэты дакумент не мог спадабацца ні Берліну (няма яму паклону), ні мяснікоўцам, якія зусім не жадалі страчваць уладу.

У Менск, паколькі цяпер быў вольны праезд, прыбыла невялікая дэлегацыя з Вільні, але ў ёй былі браты Луцкевічы — сярэдняга веку людзі (ім яшчэ не было і 40), але ветэраны палітычнага і грамадскага руху, ідэолагі беларускага адраджэння.

Ідэю незалежнасці ды яшчэ, як і ў Вільні, з просьбай падтрымкі Германіі многія менчукі — не толькі сярод эсэраў, меншавікоў, бундаўцаў, земцаў, але і ў Грамадзе, Народным сакратарыяце, Радзе БНР — успрынялі як бомбу. Што — мы без Расіі-карміліцы? Без яе цыцаў з нафтай? Без яе штыкоў? Калі не прападзём, дык нас жа глыне Германія ці яшчэ хто!

Былі прапанованы адкрыты 25 сакавіка з'езд лічыць толькі дыскусійнай нарадаю. Ды з'езд адбыўся, прыняў рэзалюцыі, абраў кіруючыя органы БНР: прэзідэнт, старшыня і народны сакратар замежных спраў, народны сакратар скарбу, народны сакратар асветы, народны сакратар кантролю, народны сакратар вайсковых спраў і маскоўскі консул.

А гэта — з Трэцяй Устаўной Граматы, юрыдычнага акта, прынятага Радай БНР **25 сакавіка 1918 года**:

*«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю».*

Злашчасная тэлеграма кайзеру прывяла да крызісу БНР. Яе ўрады пачалі пертрасацца і мяняцца, але, зноў жа, справа была не толькі «бумажная»: беларуская мова была абвешчаная дзяржаўнай, пачаліся захады для адкрыцця нацыянальных навучальных устаноў, запрацавалі некалькі соцень беларускіх школ і гімназій, адчыніліся Мінская вышэйшая музыкальная школа і Мінскі педагагічны інстытут, рыхтаваліся адкрыць універсітэт, з'явіліся выдавецтвы і беларускія газеты, ажывіліся асяродкі культуры, а ўлетку ўжо мелі свае консульствы ў Літве і Украіне, накіравалі дыпламатаў у іншыя краіны, пачалі выдаваць пашпарты БНР і ўзаконілі нацыянальныя сімвалы: герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг (пазней БНР не прызнаюць ні Масква, ні Варшава, але гэта дэ-юрэ ці дэ-факта зробяць Літва, Латвія, Эстонія, Чэхаславакія, Балгарыя, Фінляндыя, Турцыя ды іншыя дзяржавы, якія запрасілі да сябе беларускія дыпламатычныя і вайсковыя місіі, консульствы і прадстаўніцтвы).

Канечне ж, Беларускай Народнай Рэспубліцы тады, у кручаным 1918-м, за адзін год у самых што ні ёсць жудасных умовах было проста не пад сілу зрабіць шмат, ды ёй, бадай, удалося дабіцца самага галоўнага: паўстаць з попелу, сцвердзіцца і заявіць свету пра яшчэ адну дзяржаву — БЕЛАРУСЬ.

***Фрагмент нарыса «БНР—БССР: Роздум аб пакутным шляху беларускай дзяржаўнасці»***




Фота taras-shevchenko.in.ua

# Мы пераможам!



Віктар ЮШЧАНКА

Дарагія ўкраінцы!

Каля 170 гадоў таму Тарас Шаўчэнка (ураджэнец былой Кіеўшчыны) у пэўнай ступені рытарычна спытаў украінцаў:

*«Мій любий краю неповинний,*
*За що тебе Господь кара?..*
*Карає тяжко…*
*За Богдана та за скаженого Петра».*

Адказ відавочны: Расія і здрадніцтва на карысць Расіі ў любой форме і ў любы час — гэта корань нашага няшчасця. Таму кожны з нас, хто да сённяшняга дня думаў інакш, — або раб Масковіі, або акупант, або вар'ят.

Каля 100 гадоў таму яшчэ адзін вернік Украіны Сымон Васільевіч Пятлюра (ураджэнец Палтавы), адказваючы на папярэдняе пытанне, раіў украінцам быць «далей ад Масквы». І далей: «Самая вялікая перашкода на шляху прызнання суверэнітэту Украіны — гэта гіпноз, які завуць Расіяй. Гэты гіпноз трэба развеяць… Справа падзелу Расіі павінна быць пастаўлена як пытанне міру для ўсяго свету, як пытанне еўрапейскага балансу…».

Амаль 80 гадоў таму лідэр «Вольных украінцаў» Сцяпан Андрыевіч Бандэра (ураджэнец сённяшняй Івана-Франкоўскай вобласці) казаў: «Калі заўтра на змену бальшавізму прыйдзе іншая форма расійскага імперыялізму, яна таксама, перш за ўсё, з усіх сіл павернецца супраць незалежнасці Украіны і да яе паняволення. Расійскі народ яшчэ будзе трываць той імперыялізм, зробіць усё, каб Украіну трымаць у палоне…».

25 гадоў таму Вячаслаў Максімавіч Чарнавіл (ураджэнец сённяшняй Чаркаскай вобласці), адзін з лідэраў Украінскага руху шасцідзясятнікаў, вялікі ўкраінскі гуманіст, пісаў: «Двухгаловы цень расійскага імперыялізму вісіць над Украінай, якая толькі і чакае канчатковага краху нашага грамадства, каб запусціць драпежныя кіпцюры ў жывое цела нашага народа. Дай Бог, каб мы любілі Украіну перш за ўсё сёння — не павінны горка любіць яе пасля паразы…»; «Надышоў час вялікага выбару: або адзінства і перамога і шлях да святла, або параза, ганьба і зноў доўгая дарога да свабоды…».

Мараль гэтай шматвяковай украінскай гістарычнай сагі, на мой погляд, простая: калі мы, украінцы, будзем выхоўваць глыбокую нацыянальную свядомасць, якая стане сэнсам нашай ідэнтычнасці, нашага нацыянальнага сумлення — тады мы сапраўды будзем гаварыць у адзін голас, тады мы будзем салідарныя, адзіныя і цэласныя — як большасць еўрапейскіх і не толькі еўрапейскіх народаў. Гэта найвялікшая гарантыя вечнасці нашай любімай Незалежнай Саборнай Украіны.

**P.S.** І, нарэшце. Адзін з нацыянальных лідэраў 70 гадоў таму казаў прыкладна так: «Я веру, што мы дажывем да таго часу, калі на вітанне "СЛАВА УКРАЇНІ" мільёны сугучна адкажуць "ГЕРОЯМ СЛАВА"».

Сёння мы ўжо жывем у гэтым часе!!!

Мы пераможам!

Слава Украіне!

**28 лютага 2022 г.**

***Пераклад з украінскай мовы***

Вацлаў ЛАСТОЎСКІ

## Святая свабода

*Напачатку была свабода,*
*і свабода была ў руках народа,*
*і народ быў свабодным.*
*Свабода была напачатку*
*ў руках народа.*
*Праз народ*
*усё сталася, і без яго нічога не*
*сталася.*
*Народ быў незалежны,*
*а свабода і незалежнасць былі*
*радасцю людзей.*
*І памяць аб страчанай свабодзе*
*свеціць у паняволенні нашым,*
*і няволя не пагасіла ў нас*
*жадання свабоды...*
*У імя беларускага народа,*
*за яго славу, шчасце і свабоду.*
*Станься.*
*Ойча наш, каторы ёсць у*
*небе, вярні нам волю*
*і валадарства на зямлі нашай,*
*даўно і цяжка паярэмленай.*
*Хай не адымаюць чужынцы*
*хлеб штодзённы*
*ад веснаў нашых дзяцей.*
*Адпусці грахі нашым продкам,*
*каторыя не ўмелі абараніць*
*сваёй і свайго патомства свабоды...*
*Не ўводзь нас у спакусу*
*падлеглас̆ці тым,*
*што паярэмілі нас,*
*але збаў нас ад чужацкай апекі.*
*Святая зямелька, Маці наша!*
*Табе ў ахвяру складаем мы*
*ўсе сілы свае цяпер*
*і ў момант смерці нашай.*
*Веру ў Бацькаўшчыну нашу*
*Беларусь і ў Народ наш,*
*Сына яе адзінага,*
*каторы на свет прыйшоў*
*свабодным...*
*Святая свабода,*
*Выражаная дзяржаўнай самаістасцю,*
*ты наша пацяшыцелька і надзея,*
*адзіная мэта і праўда наша,*
*прыйдзі, усяліся ў нас*
*і ачысці нас ад усякага рабства*
*і збаў нас ад няволі.*

***1926***

Алесь ЗМАГАР

## 25 Сакавік

*Радзіўся Ты у Менску Беларускім,*
*Пажарам Край дыміўся у вагні.*
*Наўкол чужынцы на палетках вузкіх*
*Тапталі скарбы нашых родных ніў.*

*Народ стагнаў, угору ўздымаў рукі,*
*Лавіў святла недасяжны прамень.*
*Быў цяжкі час. Сярод нясцерпнай мукі*
*З'явіўся Ты, прыгожы, светлы Дзень.*

*Цудоўнай зоркай ўзняўшыся высока,*
*Народу шлях да волі асвяціў,*
*І зашасцелі казкаю асокі,*
*Мінулай славай лес загаманіў.*

*І Край ажыў. Народ памкнуўся к свету,*
*Ў вачах крынічыць радасці струмень.*
*І нашых продкаў слаўны запаветы*
*Ўваскрослі ў гэты незабытны дзень.*

*Вялікі Дзень! Нічым Цябе не сцерці!*
*Стагоддзям нат Цябе не перажыць!*
*Вякі мінуць, а Ты ў народным сэрцы*
*У песнях, былях будзеш жыць!*

***25 сакавіка 1946***

Наталля АРСЕННЕВА

## 25-ты сакавік

*Ён прыйдзе, гэты дзень!*
*Ён не прыйсці не можа!*
*Ён прыйдзе —*
*й загудзе вясновы буралом,*
*пакрышыць, размяце,*
*раскідае, зніштожыць*
*усё, што нам шляхі да хаты замяло!*

*Ці чуеце?*
*Аб ім*
*шасціць быльнёг аселіц,*
*пяюць вятры ў лазе*
*і звоніць крыгаў лёд*
*ахвяраю крыві,*
*а Слова стане Целам,*
*і ўжо ніколі больш*
*не ўстане Чорны Год.*

*Няхай бярэмя він*
*прыгнула нас, і крылы*
*апалі,*
*і хлеб чужы нясмачны і важкі,*
*няхай нас апавіў*
*тугой агорклы вырай, —*
*трывайма!*
*Ён ідзе —*
*Вялікі Сакавік!*
*Ідзе...*
*й пад ногі рунь*
*яму кладзецца, таюць*
*снягі, на паплавах зяленіцца трава...*

*Радзіма!*
*Беларусь!*
*Каханая, святая!*
*Багаслаўі нас жыць*
*і веру захаваць!*

***1950***



Фота belarusian.ca

Васіль БЫКАЎ

## Гонар і слава!

*<...> Знакаміты акт 25 сакавіка 1918 года — самая значная падзея ў нашай гісторыі, у якой засяродзілася ці не ўся сутнасць нашай нацыянальнай ідэі. З вышыні мінулага часу добра ўжо відаць, што нават мала важна тое, ці дасягнутая заяўленая мэта. Для нас не меней важна, што яна была заяўленая — рашуча, па-дзяржаўнаму, на ўсю Беларусь і на ўвесь свет.*

*Тыя, што вартыя яе былі пачуць, — пачулі, для іншых жа яна засталася без карысці. З тае пары стала зразумела, што менавіта гэтая мэта ёсць ключом да нацыянальнага шчасця і дабрабыту, што асабліва важнае ў наш ліберальны век.*

*Колькі будзе жыць нацыя, столькі будзе памятаць герояў 25 сакавіка, яго шараговых чыннікаў. І незалежна ад таго, ці хутка мы даможамся тагачасных мэтаў. А калі і не даможамся нават, дык меццьь тое на мэце тым болей важна заўсёды.*

*Таму: жыве Беларусь! — гукаю я сёння разам з тымі, хто пад бел-чырвона-белым сцягам абараняе на беларускай зямлі галоўнае права свабоды і незалежнасці. Вам, дарагія мае землякі, гонар і слава!*

***1998***

Рыгор БАРАДУЛІН

* * *

*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Годны дзень*
*Беларускай дзяржавы.*
*Веснаплынных вятроў талака*
*Пыл з кароны атрэсла іржавы.*
*Шматавалі нас досыць арлы*
*І з адной, і з дзвюма галавамі.*
*Мы не з нейкай бязроднай імглы,*
*Нас вякі як сваіх*
*Гадавалі.*
*Мы — ратаі святла,*
*Крывічы,*
*Верхачы неўмірucючай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*
*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*

Ніл ГІЛЕВІЧ

* * *

*Натхнёныя святлом Хрыстовай веры,*
*Мы выйдзем, вымкнем на прастор-разлог!*
*І грымнуць долу д'яблавы хімеры!*
*І блаславіць нас на змаганне Бог!*
*І запануе воля ў нашым стане,*
*Жыццё памкне свабодна, як рака.*
*І першым святам Бацькаўшчыны стане*
*Дзень Дваццаць Пятага Сакавіка*

Міхал АНЕМПАДЫСТАЎ

## Мая краіна

*Я люблю, калі свеціць сонца*
*Рана ранкам праз фіранкі.*
*Я люблю пах свежае кавы,*
*Я люблю смак смажанай бульбы.*
*Мне падабаецца дым цыгарэтаў,*
*Мне падабаецца водар парфумы.*
*Я люблю халодныя блюзы,*
*Я люблю свае джынсы старыя.*
*Я жыву ў гэтай Краіне.*
*Мая Краіна пад белым снегам,*
*Мая Краіна пад белым сцягам,*
*Пад белым сцягам з чырвонай стужкай.*
*Я з цягам часу станусяптушкай,*
*Раскіну крылы, зраблю тры крокі*
*І падымуся па-над зямлёю*
*Туды, дзе вецер і дзе аблокі,*
*Над Краінай пад белым снегам,*
*Над Краінай пад белым сцягам,*
*Пад белым сцягам з чырвоной стужкай*
*Мая свабода.*
*Мая свабода – з ветрам нязгода*
*Ды асалода супрацстаяньня.*
*Мая свабода – човен падводны*
*Паміж Сцылаю ды Харыбдай,*

*Мая свабода – дом папяровы*
*Паміж Гамораю ды Садомам,*
*А там за домам край невядомы*
*Пад белым снегам, пад белым сцягам.*
*З цягам часу складанымі сталі*
*Законы гульні,*
*А неяк раней усё проста было*
*І мы былі;*
*Мы проста ішлі, мы проста стаялі,*
*Мы проста жылі і паміралі*
*У сваіх дамах папяровых,*
*У сваіх падводных чоўнах*
*Паміж Сцылаю ды Харыбдай,*
*Паміж Гамораю ды Садомам,*
*Паміж Сцылаю ды Харыбдай,*
*Паміж Гамораю ды Садомам,*
*У Краіне пад белым снегам,*
*У Краіне пад белым сцягам,*
*У Краіне пад белым снегам,*
*У Краіне пад белым сцягам,*
*Пад белым сцягам*
*З чырвонай стужкай*
*Мая свабода...*

Васіль ЖУКОВІЧ

## Дзень Волі

*У беларусаў ёсць Дзень Волі,*
*Свабоды свята, свята духу.*
*Хадзем, браты, да лепшай долі,*
*Перамагайма нашу скруху.*

*Чыйгосьці не бралі мы ніколі,*
*Ды і сабе не зычым стратаў.*
*У беларусаў ёсць Дзень Волі, —*
*Найдаражэйшае нам свята.*

*Чакае весняе прыволле,*
*Уласны шлях і свой парадак.*
*У беларусаў ёсць Дзень Волі —*
*Дзяржавы новае пачатак.*

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

## 25 сакавіка

*Калі мы з табою мужчыны,*
*Калі мы не ветры ў полі,*
*Калі мы любім Айчыну*
*Як сябе і нават болей,*
*Дык тады скрозь нашы целы*
*Скрозь пакуты ўсе і болі*
*Між аблок чырвона-белых*
*Пралятаюць птушкі волі.*

*Дваццаць пятага сакавіка*
*Лёд зімовы ламае рака,*
*І лунае, як ластаўка,*
*Дваццаць пятага сакавіка.*

*Дваццаць пятага сакавіка*
*У руцэ – каханай рука,*
*Напаўняе душу да крайка*
*Дваццаць пятага сакавіка.*

*Калі мы з табою мужчыны,*
*Калі носім гэтае званне –*
*Нам з табой няма спачыну*
*Ні ў каханні, ні ў змаганні.*
*У каханні да жанчыны,*
*Што праводзіла ў дарогу,*
*У змаганні за Айчыну,*
*Што нам дадзеная Богам.*

*Дваццаць пятага сакавіка*
*Лёд зімовы ламае рака,*
*І лунае, як ластаўка,*
*Дваццаць пятага сакавіка.*

*Дваццаць пятага сакавіка*
*У руцэ – каханай рука,*
*Напаўняе душу да крайка*
*Дваццаць пятага сакавіка!*

***2020***

# Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаазначэння народа

Фабіян Шантыр

***Фабіян Гіляравіч Шантыр нарадзіўся 135 гадоў назад 4 лютага ў Слуцку. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях зусім маладым быў зняволены ў Слуцкай турме (1905—1907). Працаваў мулярам, настаўнікам.***

***Пачаў друкавацца ў газеце «Наша ніва» (празаічныя абразкі-імпрэсіі, вершы). У 1914-м мабілізаваны ў расійскае войска. З 1917 года стаў адным з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады, у ліпені 1917-га быў абраны ў Цэнтральную раду беларускіх арганізацыяў і партыяў. Удзельнічаў у Першым Усебеларускім з'ездзе. З папачатку 1919 года — камісар (міністр) па нацыянальных справах Часовага ўрада БССР. У той жа год быў арыштаваны. У лютым 1920-га мабілізаваны ў Чырвоную Армію. А 17 красавіка 1920 года быў арыштаваны асобным аддзелам 16-ай арміі і 29 траўня (у трыццаць тры гады) расстраляны.***

***Найбольш значная публікацыя Фабіяна Шантыра — кніга-брашура «Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаазначэння народа», выдадзеная ў Слуцку ў 1918 годзе. У ёй аўтар дае кароткі абрыс гістарычнага шляху беларускага народа, найбольшую ўвагу засяродзіўшы на праблемах яго свядомаснага і нацыянальна-культурнага (мова, звычай, светапогляд) развіцця, а таксама на пытанні новага беларускага нацыянальнага адраджэння.***

***Перачытайма гэтыя старонкі — поўныя рамантычнай узнёсласці, замілаванасці родным, веры ў будучыню Беларусі, якія — праз стагоддзе — маюць актуальнасць і ў нашыя дні.***

Як не горка і не смешна, але калі мы пачынаем гаварыць аб адраджэнні Беларускага народа, аб патрэбе для яго нацыянальнага і палітычнага жыцця, нам задаюць пытанні, ці мы, Беларусы, сапраўды ёсць жывы народ, ці не маем мы намеру стварыць нейкую штучную нацыю і штучнае палітычнае ўладарства? Хоць кожны добра ведае, што нацыя — гэта не прадукт творчасці чалавечай, а прадукт творчасці прыроды, што штучных ані мовы, ані псіхафізічнага тыпу чалавека ніхто не можа стварыць і што нармальнае палітычнае ўладарства можа быць толькі там, дзе ёсць аднародная маса па сваім бытавым, культурным і грамадзянскім укладзе.

<…>

Гісторычна-палітычнае мінулае беларускага народа настолькі багатае, што памры беларускі народ цяпер як нацыя, — па ім бы застаўся такі велізарны помнік, цень каторага яшчэ многа вякоў гаварыў бы аб сабе. Цяпер жа, калі мы пачалі прабуджацца, помнік мінулага будзе для нас нашым лепшым сведкам на правa народа на самаазначэнне.

<…>

Што мы разумеем пад нацыяй і пад той злучнасцю, каторая ёсць фундаментам існавання кожнай нацыі? Нацыя — гэта збор (сінтэз) праяў быту групы аднародных асоб, творачы з сябе так званую душу народа, каторая ў цэлым ёсць самабытная істота, маючая свае нязменныя законы быту, заснаваныя на цвёрдай падставе натуры. Законы гэтыя — мова, звычай, часткова гістарычнае мінулае і вера народа; прырода — краявід, клімат і ў некаторай частцы ўціск суседніх народаў. Першае выцякае з другога і творыць цэльнасць быту народа незалежна ад яго волі. Гэтая цэльнасць быту і ёсць вядомым нацыянальным інстынктам, які кіруе жыццём нацыі...

<…> Нацыянальнасць — гэта прырода быту народа, зусім незалежная ад яго волі і разумення.

<…> Як кожная часціна прыроды мае свае ўласныя законы быту, таксама мае гэтыя законы і чалавек. Найгалоўнейшым з гэтых законаў і ёсць закон нацыянальнага жыцця. Нацыянальнае жыццё — гэта жыццё, якое мае для роста духу чалавечага праўдзівую дарогу. Па-за гэтай дарогай развіцця чалавечы дух вырасце калекам... Якая ж карысць жыць чалавеку нацыянальным жыццём свядома, з пераканання, і жыць, будучы несвядомым свайго нацыанальнага «я»? У першым — гэта пладатворчасць, прыносячая багаты ўраджай свету і культуры на роднай ніве, баронячая першаасновы свайго індывідуальнага «я» ад шкодных уплываў, у другім — замкнутая скрынка, поўная багацця, ключ ад каторай страчаны і ад каторай няма нікому карысці...

Патрэбнасць нацыянальна-свядомага жыцця не толькі ёсць патрэбнасцю, выцякаючаю з факту самога быту чалавечага, г.зн. патрэбнасцю, выцякаючаю з законаў прыроды, але, каб гэты быт быў дастойны свайго чалавечага імя, мусіць быць і патрэбнасцю, выцякаючаю са здаровага лагічнага разумення, — бо толькі народ, свядомы сваей душы, свайго нацыянальнага «я», свайго народнага імя, становіцца раўнапраўным сябрам у сям'і народаў свету. Народ жа, несвядомы сябе, які не дбае аб


Ф. Шантыр.
Патрэбнасць нацыянальнаго жыцьця для беларусаў і самаазначэньня народу.
СЛУЦК
ДРУКАРНЯ Э. БАРНАНА
1918 года.


Фабіян Шантыр

павышэнні свайго духоўнага «я», такі народ ідзе на повадзе ў іншых народаў як нявольнік і часта становіцца крывавай арэнай змаганняў іншых народаў за яго нацыянальную вопратку — за яго зямлю, за яго працу. Гэткі народ, будучы слугою іншых, не толькі нічога не дае ў сусветную скарбніцу культуры, але, дбаючы сваім потам і крывёй для славы сваіх уладароў з аднаго боку, працуе над сваім вынішчэннем нацыянальным, ці, хутчэй, духоўным — з другога. Свядомасць свайго краю, усяго свайго роднага, свядомасць поступу свайго нацыянальнага «я» — гэта найважнейшая патрэба ўсяго народа, гэта той штодзённы яго духоўны хлеб, без каторага ён як народ дастойна жыць не можа. Такая свядомасць вядзе да святла і дабрабыту народа не ў крыўду для другіх народаў. Усе вялікія людзі, усіх народаў і ўсіх часоў, у сваім жыцці кіраваліся адной нязменнай засадай нацыянальнай свядомасці — гэта праца над ростам паступовым нацыянальнай душы свайго народа, авеяная любоўю да ўсяго роднага.

<…>

Патрэбнасць нацыянальнага жыцця цесна звязана з патрэбнасцю палітычнага самаадзначэння. Для нармальна-паступальнага развіцця свайго духа, чалавек, канешне, мусіць жыць нацыянальным жыццём. Каб уяснiць, як неадлучна ідзе нацыянальнае жыццё з жыццём палітычным, звернем увагу на кардынальнейшыя бакі гэтага жыцця.

Уперш асвета: праўдзівая асвета, якая вядзе чалавека да вышэйшых ідэалаў, каб яна была карыснай для яго, мусіць праводзіцца ў роднай мове, мусіць быць зусім ад нікога незалежнай і вольнай і мець варункі эканамічнага існавання. Калі народ свядомы сябе і ад нікога незалежны, то і яго асвета не будзе слугою пануючых над народам, не будзе спрыяць закабаленню народа, а будзе ясным шляхам да праўды і харастве.

Далей: паступовы рост народа ў бок культуры і цывілізацыі залежыць ад эканамічнага багацця і сацыяльных парадкаў. <…> Пад якою культурнаю апекаю народ бы не быў, але калі гэта апека будзе чужою, то яна ніколі не дасць яму карысці і ў канцы канцоў прывядзе яго да поўнага ўпадку.

Кінуты дэмакратыяй у час крывавай вайны лозунг самаазначэння кожнага народа, больш як калі патрэбны цяпер для правядзення яго ў жыццё. Гісторыя добра навучыла народы, што большая частка войн вядзецца і вялася за прымусовае далучэнне пад сваё ўладарства адным народам другога — і што *народ, сілай прылучыўшы пад сваё ўладарства слабейшы народ гэтым самым капае сабе магілу, бо ўсялякі народ можа развівацца ў кірунку к дабрабыту толькі тады, калі ён зложаны з аднародных гарманічных элементаў, а ўсялякая спрэчнасць рана ці позна давядзе яго да поўнага развалу, чаму гісторыя не раз вучыла і што мы цяпер бачым з Расеяй*. Ды і сілавое далучэнне адным народам другога не апраўдвае сваёй важнейшай мэты — эканамічнага ўзбагачэння, бо дасюль мы бачылі, што народ, насільна прылучыўшы пад сваё ўладарства другі народ, вялікую частку сваіх сіл траціць на тое, каб утрымаць сілай загорнутыя пад сваю ўладу народы ў пакоры, каторыя ніколі не перастаюць рвацца да волі, да самаазначэння.

Самаазначэнне кожнага народа не толькі карысна для яго аднаго, бо вядзе яго па праўдзівай дарозе цывілізацыі, культуры і дабрабыту ўсяго чалавецтва, але таксама карыстная і для ўсіх народаў, бо сваім жыццём — не чынячы ніякіх перашкод на дарозе росту чалавечага духа, здабыцця эканамічных багацццяў і паляпшэння сацыяльных варункаў жыцця — прыбліжаючы ўсё чалавецтва да вялікіх ідэалаў волі, братэрства, любові.

Для нас, беларусаў, патрэбнасць нацыянальнаго жыцця і самаазначэння народа — гэта патрэбнасць усяго нашага быту. Ні адзін народ не стаіць на такім страшным бездарожжы і нацыянальна-духоўнага жыцця, і палітычнага бясправўя, як мы, беларусы. Сотні гадоў наш бяздольны народ без свайго чалавечага імя блукае ў цемры нацыянальнай несвядомасці, а праз гэта служыць толькі ахвярай здзеку і пагарды. ...Ён не можа выйсці на дарогу праўдзівага поступу да культуры, не можа ісці поруч з другімі нацыямі да агулова чалавечых ідэалаў, а стаіць адзінокі, сіратлівы, адгароджаны кітайскаю сцяною ад цывілізацыі, не могучы даць тых вялікіх скарбаў духа, якія носіць у сабе.

<…>

Праз чужую мову, культуру, праз чужую народнасць ні адзін народ не можа прысці да агулова чалавечых ідэалаў раўнапраўным сябрам; калі ён страціць сваю мову, народнасць, сваю нацыянальную душу і пойдзе па дарозе культуры, то будзе толькі простым слугою таго, пад чыім імем ён будзе ісці, — ён прыйдзе не да культуры, а да сваёй нацыянальнай смерці, якая выльецца ў цяжкі векавы летаргічны сон.

<…>

Найцяжэйшы час перажывае цяпер беларускі народ. Крывавымі слязьмі ён піша цяпер сваю гісторыю, стоячы над зруйнаванай сваёй бацькаўшчынай...

Толькі цяпер, у час смерці і ўваскрашэння, каб наш народ зноў не астаўся на доўгія гады нявольнікам і ахвярай здзеку, мы павінны разбудзіць яго са сну несвядомасці да разумнага нацыянальнага быту, будовы сваёй бацькаўшчыны на падставе нашай народнасці і жаданняў народа.

Да працы нас павінна заахвочваць і гнаць разуменне наша, што шчасце ёсць толькі там, дзе ёсць святло, культура, воля. Усё ж гэта можна толькі здабыць на ніве грамадства, якое ўсведамляе сябе і сваё нацыянальнае імя.

Пры ўсім гэтым мы павінны памятаць, што разбудзіць народ да нацыянальнай свядомасці — гэта не значыць стварыць нейкую ідэю ўваскрашэння ўміраючай нацыі і даць яе народу як нешта новае, гэта — асвяціць толькі святлом нашага знання дарогу блудзячаму ў цемры гістарычнага бездарожжа народа беларускага, падзяліцца з ім, у імя справядлівасці, сваім знаннем; натуралізаваць скрытыя ў глыбі народа жаданні ў канкрэтныя формы, да каторых ён рана ці позна мусіць прыйсці сам.

Збудзіць беларускі народ — гэта значыць праявіць яго нацыянальную душу, яго нацыянальнае «я» да творчага свядомага самабыту на карысць вялікіх ідэалаў чалавецтва, даць ім можнасць карыстаць з скрытых багаццяў беларускай натуры.

Збудзіць беларуса да культурна-нацыянальнага жыцця — гэта значыць пачаць для яго новую эру гісторыі, эру не сну, здзеку, пагарды, адарванасці ад усяго светлага, а — вялікага грамадзянскага, мэтай каторага павінны быць шчырая злучнасць усіх народаў, абвенчаная праўдзівая чалавечай любоўю.

Мы павінны помніць, што жывы народ, маючы пад сабою нязменнымі асновы свайго нацыянальнага быту, не памрэ, а рана ці позна адродзіцца і сам адновіць сваё імя.

Не памрэ і беларускі народ.

Сотні гадоў ён знаходзіўся ў паўсне несвядомасці, а ўсё ж ён жывая нацыя, маючая свой уласны быт.

Рана ці позна наш народ прабудзіцца з нацыанальнага сну, але які страшны суд зробіць над намі гісторыя, якім ашчэрным імем яна нас закляйміць, калі мы не прыложым цяпер працы да абуджэння нашага народа, да вываду яго з цемры несвядомасці да святла, — з агорнутай яго нядолі. Аб усім гэтым нам сведчаць гісторыі нацыянальнага абуджэння іншых народаў.

Просты сэнс, простая рахуба здаровых разумаванняў кажуць нам, каб мы, усе тыя, хто свядомы свайго «я», хто жыве не толькі для сябе, але і для краю, для каго «народ», «бацькаўшчына» не пустыя словы, — каб усе гэтыя не былі безвалоднымі сведкамі ў гэты крывавы час разрухі і нядолі, сведкамі гора свайго народа; не глядзелі моўчкі, як сочыцца кроў з ран бацькаўшчыны, а былі шчырымі работнікамі на роднай ніве, праўдзівымі дзецьмі свайго бацькі народа, гатовымі прынесці яму ў ахвяру і розум, і душу, і нават, у патрэбе, жыццё.

Працаваць над абуджэннем свайго народа, працаваць над адбудовай вольнай бацькаўшчыны Беларусі, працаваць у карысць, каб яна не была пагардай іншым. А мы — не нявольнікамі сваёй цемры, а роўнымі сябрамі другім народам, — якая гэта вялікая доля для нас!

*1918 г.*

# Тварам на ўсход



Валянціна АКСАК

### Ружа ў заплечніку

*У тлуме вакзальным*
*погляд наткнуўся на ружу,*
*што вытыркалася*
*з зашмальцаванага плецака,*
*у якім ледзь змясціўся вазон*
*са здзіўленай кветкай.*
*Галоўка гайдалася*
*ў такт хады чаравікаў стаптаных,*
*а на пероне замерла,*
*раптоўна ачомаўшыся*
*і зразумеўшы,*
*што цяпер яна будзе заўсёды*
*жыць у заплечніку.*
*Бо да веку —*
*блуканка.*

### Уцёкі з Палесся

*Багна. Вольхі. Хмызы. Асака.*
*На купінах чорныя хаткі.*
*Да іх немагчыма дапяць*
*без шанцу кульнуцца*
*ў тарфяныя лёхі.*
*Даруй, дзядзька Колас,*
*мне не родны твой кут*
*на дрыгве.*
*І ты, дзядзька Мележ, прабач,*
*не дачка я*
*людзей на балоце.*
*Макраступы з ракітаў спляла,*
*багуном намасціла грэблю,*
*ногі наструніла*
*за далягляд камарыны.*
*Дзень каторы брыду —*
*ды ўсё тыя ж навокал лазіны*
*і наперадзе тая ж вярба,*
*доляй абдзеленая.*
*Замарока гусцее,*
*прытулку нідзе не відаць,*
*а ў высях палескіх*
*зіхцяць заміж зораў*
*воўчыя вочы.*

### Падвей

*Гашты ўпалавелі*
*на суседскім гаўбцы,*
*між парэнчаў*
*паныла звісаюць*
*збуцьвелымі космамі,*
*а касьмеі ўсё ж неяк трываюць,*
*іх галоўкі падвялыя*
*пільна ўзіраюцца ўніз*
*на прылеглыя ходнікі —*
*а раптам мо там*
*гаспадар заблукаў*
*і дадому ніяк не патрапіць,*
*то кінуць пад ногі яму*
*суквецці знаёмыя.*
*Падвеем падхоплены*
*ўдалеч ляціць*
*пялёстак апалы,*
*памылкова пасланы паролем*
*выпадковаму мінаку.*

***

*Сонца ведае час*
*заходу свайго,*
*а ўзыходзіць*
*заўжды*
*выпадкова.*

### Фаэтон

*Тварам на ўсход —*
*так нязрушна стаіць*
*мой фатэль,*
*дашчэнту абцёрханы,*
*з якога шторання*
*ўпіраюся поглядам*
*у свінцовыя хмары.*
*Феб праз іх*
*ніяк не праб'ецца*
*да спрацаваных рук,*
*азалелых у золаку,*
*і ніхто мяне ў поўдзень*
*са смехам гуллівым*
*не прамчыць па васёлцы*
*ў далягляд пазагляднаў*
*спічастых карункаў,*
*дзе няма ўжо каму надвячоркам*
*запарыць ліповай гарбаты*
*для застоліцы з Мілавіцай.*
*Фаэтон дзесь гніе*
*не запрэжаны,*
*а ў Возніка*
*крылы ржавеюць.*

### Святаяннік

*У момант,*
*калі пацяжэлае сонца*
*нанізваецца на спічакі*
*замка Балморал,*
*я запарваю святаяннік*
*і смакую гаючы напой*
*аж пакуль*
*у кубак пусты*
*не заглядвае даўні сябрук,*
*які кпліва запытвае,*
*ці дапамог гэты сродак*
*ад хранічнае скрухі.*
*Строіць дасціпна*
*яшчэ колькі кепікаў*
*ды дастае*
*з паточанай шашалем шафы*
*Ballantine's.*
*Налівае абодвум і кажа,*
*што ў Шкотыі*
*нам патрэбна адвыкнуць*
*ад лекаў лагодных*
*з-над Нёмна,*
*а прывучваць нутро*
*да суровае акавіты*
*з берагоў*
*халоднае Ды.*

### Сухмень

*Лагода ў лілеі*
*ўчарашняга дня*
*сёння хінецца*
*да засохлай*
*лаванды.*

### Падмурак

*Вільготная лагода позніх ягадаў*
*разлеглася ў лагчыне між ляшчынаў,*
*агортвае смуга смуроду дзікую*
*на холадзе зарослага падворка,*
*падмурак угаворвае рамонкаў*
*распроставаць кволых промняў далягляды*
*да ўдалых рук гаспадароў вандроўных.*
*Словы ловіць густая павута.*

### Кузурка

*Кузурка паўзе паўз дарогу,*
*зіхаціць у цямноце.*
*Істота няўцямная*
*ліхтарыкам абярнулася,*
*разважыла шлях*
*у немінучае*
*беспрасвецце.*
*А мо гэта зорка*
*з Вялікага Воза*
*скацілася на гліназём*
*пад ногі мае?*
*Вазьму асцярожна яе,*
*схаваю за пазуху.*
*Бязмежнай зімы маразы*
*яе там не загасяць.*
*Паскараю хаду*
*ў незваротную*
*непазбежнасць.*

### Цноты восеньскіх колераў

*Цноты дня ў каларыстыцы*
*восеньскіх шпажнікаў,*
*безаглядных на бруд*
*нелітасціва халоднай вясны*
*і сухмені праз цэлае лета.*
*Яны ў спробе спасцігнуць*
*дасканалую чысціню*
*нат пад ножнамі дбайнага*
*пра перадзімовы парадак садоўніка*
*шлюць яму дапамогу ў душу*
*і добразычлівасць у сэрца,*
*каб не парушыў адценні,*
*калі назаўжды*
*іх адрэжа*
*ад каранёў жыццядайных.*

### Ноч

*У чорным квадраце Малевіча*
*мірыяды знічак трапечуцца,*
*бачныя для невідушчых.*
*Адсутная ў арыгінале рама*
*тут зашчэплена абцугамі*
*па ўсіх чатырох кутах.*
*Завалы, што калісь былі*
*падрамнікамі,*
*аблямавалі чорнае кола,*
*якое беламу*
*не перасцігнуць.*
*Квадрат*
*наплывае на кола*
*і купал*
*робіцца крыжам.*
*Пустэчы*
*абапал пярэчынак*
*антрацытамі стынуць.*
*Супрэматызм.*
*Найвышэйшая кропка.*
*Цвікі замест зорак.*
*Ноч.*

### Чаканне

*Над горадам Дому Хлеба*
*хлопчык Аўр*
*апрабоўвае крылы.*
*З сузор'я Арла*
*на яго закахана глядзіць*
*юная Вечарніца.*
*Ціхутка пяе калыханку*
*малое ягня.*
*Пры яслях заснула*
*вандроўніца з Назарэту.*
*Ганна з Якімам*
*дапіваюць віно*
*прамінулага дня.*
*Язэп утрапёна ўзіраецца*
*ў пунсовую Мілавіцу.*
*Тры постаці выплываюць*
*з ружовай вiдзежы.*



Фота А.К.

*Сонца шле першыя промні*
*на пялюшкі льняныя,*
*што сушацца на галінах*
*у садзе аліўным.*
*Вецер стары*
*ў завуголлі скавыча*
*ад пракаветнае роспачы,*
*бо мусіць адгортваць*
*старонку апошнюю*
*Веташковага запавету,*
*а кнігу Маладзіковую*
*яму ўжо не лёс*
*эўхарыстычна чытаць.*

### Без цудаў

*Дарагі Санта Клаўс,*
*калі ў тваёй торбе*
*нічога няма*
*апроч гэтых ружовых*
*смактунчыкаў,*
*то не йдзі*
*ў нашу хату.*
*Мы з сястрычкай*
*не любім салодкага.*
*Кажаш,*
*пернікі маеш з імбірам без цукру*
*ды памаранчыкі.*
*І іх не ямо,*
*бо не з нашага*
*поля і саду дарункі.*
*Крыўдуеш?*
*Маўляў, наравістыя дзеці*
*на гэтай зямлі.*
*Слухай,*
*а мы ў твае цуды*
*ўвогуле*
*болей*
*не верым.*
*Дый самога цябе,*
*бадай,*
*падмянілі.*
*Сапраўдны святы Мікалай*
*сёння ў торбе вялікай сваёй*
*прынёс бы дамоў*
*нашага тату.*
*Ты здзіўлены?*
*Ну то бывай!*
*Ідзі і чмуры тых дзяцей,*
*чый тата*
*пяшчотна прытульвае іх,*
*а не горнецца горка*
*да халоднае*
*шорсткае*
*шконкі.*

### Лесвіца з Аіду

*Душа мая ізноў памаладзела.*
*Ёй хочацца ляцець*
*за далягляд прыўлашчаных лагчынаў,*
*на верхавіны гор прысесці,*
*змыць стому ў моры,*
*спусціцца ў нетры паглядзець,*
*як там таньчыць Эўрыдыка,*
*і вочы захінуць крылом*
*наіўнаму Арфею,*
*каб вывеў яе ўрэшце*
*з Аідавай цямрэчы вечнай.*
*Ды зноў ты азірнуўся,*
*дэісты лірнік мой.*
*Я разумею —*
*ты хацеў убачыць,*
*ці з маёю юнаю душой*
*усё яшчэ ў гармоніі*
*жыве ахоўны*
*хорам цела.*

### Навырост

*Вечар. Вецер.*
*Завея змятае ў сумёты*
*звягі і звады.*
*Расшастаўся з хмараў*
*танюсенькі маладзік.*
*Апусціўся ў мой сад*
*і прысеў,*
*як каханак нясмелы,*
*трошкі зводдаль.*
*Прашаптаў:*
*усміхніся ўсяму,*
*што навокал —*
*заўтра гэтага ўжо*
*ты не ўбачыш.*
*Жыві, як і я.*
*Навырост.*

Усевалад СЦЕБУРАКА

# Ішлі гады́...

## Фрагмент з кнігі «Сцебуракаў лёс»

**Успаміны дзеда Анатоля Сцебуракі**

Напачатку Першай сусветнай вайны нашая мясцовасць была ў глыбокім тыле. Але войскі Расійскай імперыі адступалі, і праз год баявыя дзеянні перамясціліся ў Вялейскі павет. Тады наш фальварак Субачы апынуўся ў прыфрантавой паласе.

14 верасня 1915 г. Германскае імперскае войска каля Свянцянаў ажыццявіла ўдалую наступальную аперацыю. Яго часткі хуткім ударам захапілі Смургоні, Вялейку, зрабілі рэйд у бок Глыбокага, перарэзалі чыгуначную лінію Мінск—Масква пад Смалявічамі, пагражалі захопам Маладэчну — стратэгічна важнаму чыгуначнаму вузлу. Так выглядаў славуты Свянцянскі прарыў на мапах стратэгаў, а для жыхароў Субачаў, якіх ні прапановы, ні прымус не схілілі да бежанства, вынікам прарыву стала 10-дзённае панаванне новых гаспадароў.

Пасля ліквідацыі нямецкага прарыву ў Крывічскую воласць вярнуліся расійкія часткі. Фронт стабілізаваўся пад Смургонямі, а ў Крывічах і Княгініне сталі тылавыя падраздзяленні. Нягледзячы на тое, што самі Субачы пазбеглі разбурэння, а ўсе члены сям'і былі дома (гаспадар Мікола меў траўму калена і не падлягаў прызыву, а сыны былі зусім маленькімі), гаспадарка ўсё ж зазнала ўсе складанасці вайсковага часу.

...Падчас той вайны беларускія сяляне ўпершыню масава пабачылі людзей на роварах. Былі гэтыя дзіўныя жалезныя машыны і ў нямецкай роварнай пяхоты, і ў рускіх самакатчыкаў. Пакуль маладыя праяўлялі непрыхаваную цікавасць да тэхнікі, старыя людзі хрысціліся і войкалі, упэўнена сцвярджаючы, што чалавеку, каб ездзіць, патрэбныя чатыры колы, а на двух здольныя ўтрымацца хіба чэрці!

Напрыканцы вайны месяцы нерухомага стаяння фронту змяніліся вокамгненнымі перасоўваннямі то на ўсход, то на захад. 18 лютага 1918 г. Германія скасавала часовае замірэнне з Расіяй і пачала імклівы наступ. Часткі расійскага войска, на той час амаль канчаткова дэмаралізаваныя бальшавіцкай антываеннай агітацыяй, не аказвалі істотнага супраціўлення і адступалі.

Нашыя Субачы на 10 месяцаў апынуліся ў глыбокім, на гэты раз ужо нямецкім, тыле. Зноў усё пайшло па старой завядзёнцы: падаткі, паборы, рэквізіцыі.

У сярэдзіне снежня 1918 г. на змену немцам, якія на той час самі зазналі рэвалюцыю і перажывалі палітычныя метамарфозы, на нашых землях з'явіліся новыя гаспадары — бальшавікі. На час іх прыходу прыпадае і цікавы эпізод нашай сямейнай гісторыі, а менавіта канчатковы падзел фальварка паміж стрыечнымі братамі Данілам Данілавічам і Міколам Канстанцінавічам. Справа ў тым, што зямля маёнтка паміж маім дзедам Канстанцінам і яго братам Данілам была палюбоўна падзеленая, а вось стары сядзібны дом заставаўся прадметам спрэчак. Пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. з добрага дрэва, ён быў тыповым фальварковым будынкам нашых абшараў — з дзвюма калонамі, порцікам, высокім ганкам і вальмавым дахам. Нават стары, ён усё ж быў зайздросны, цікавай абодвум братам спадчынай. Не маючы перавагі ў правах на яго, браты ўпарта жылі ў доме разам са спадзевам на тое, што нехта раней страціць цярпенне ды пачне адбудоўвацца самастойна. У тыя дні, калі Саветы толькі занялі Княгінін, брат Даніла выправіўся да іх з неадкладным данясеннем. Змест яго быў наступны: у сядзібным доме на хутары Субачы месціцца нямецкі штаб; чырвоны бранепоезд, што стаяў на рэйках станцыі, даў некалькі залпаў па небяспечнай кропцы; вынікі артабстрэлу былі такія: адзін снарад выбухнуў на адлегласці і нічога не пашкодзіў, другі не разарваўся і захрас у сцяне свірна, а трэці стрэл спаліў спрэчны сядзібны дом на вугаль...




Шлюбны здымак Міколы і Ксеніі Сцебуракаў. 1910 г.

Наступныя некалькі гадоў адзначыліся ў гісторыі нашых мясцінаў хуткай зменай сцягоў, уладаў ды парадкаў.

У 1919 г. пачалася савецка-польская вайна. Легіёны начальніка паньства Юзафа Пілсудскага правялі імклівы наступ на ўсход. 1 ліпеня 1919 г. яны занялі Вялейку. Але баявыя дзеянні ішлі з пераменным поспехам — амаль дакладна праз год, 10 ліпеня 1920 г., чырвоныя зноў змянілі на нашых абшарах жаўнераў Другой Рэчы Паспалітай.

Бязладдзе і перманентны ваенны стан, што панавалі пасля заканчэння Першай сусветнай вайны на некалі спакойных і досыць заможных землях, прывялі да працяглага занепаду гаспадаркі. Нашая сям'я захавала скупыя ўспаміны пра тое, як, нягледзячы на вялікія зямельныя ўладанні, насельнікі Субачаў вялі напаўгалоднае існаванне, як квасілі і елі нават бурачковае бацвінне, як па наваколлі ў пошуках ежы безадпаможна цягаліся натоўпы жабракоў, якіх раней ніхто ў такой колькасці не бачыў. Згадвалі таксама пра тое, як даведзеныя голадам да крайнасці коні чырвонаармейцаў у пустых стайнях шчапалі зубамі на трэскі бярвенне зрубаў...

У кастрычніку 1920 г. вярнуліся палякі. Рыжская дамова 1921 г. замацавала іх гаспадарамі на нашых землях на доўгія 18 гадоў. Жыццё пачало вяртацца ў мірнае рэчышча.

Недзе ў гэты час майму бацьку ўдалося набыць у вайсковай часткі, што стаяла ў Крывічах, сляпога на адно вока артылерыйскага каня. Выбракаваны ветэрынарам, моцны яшчэ конь, абышоўся нам у 10 царскіх залатых. Гэта была вялікая двайная ўдача. З аднаго боку, не кожны дзень войска прадавала такіх добрых жывёлінаў, а з другога — мала хто мог пахваліцца захаванымі чырвонцамі...

Менавіта з гэтым памочнікам сям'я нанова пачала адраджаць занядбаны фальварак. Купіўшы тры сялянскія зрубы, мы збудавалі сабе новую вялікую хату. За руплівай працай хутка ажывала гаспадарка і ўладкоўваўся побыт. Часы ваеннага ліхалецця мінулі, і Субачы разам з усім краем уваходзілі ў новае дзесяцігоддзе імклівага развіцця і адбудовы.

Пасля заключэння Рыжскага міру наўпрост па нашых мясцінах прайшла мяжа, што дзяліла Беларусь. Сцебуракі сталі грамадзянамі Рэчы Паспалітай.

Польская адміністрацыя была сустрэтая бальшынёй насельніцтва спакойна. Найперш, напэўна, таму, што новая ўлада не рушыла даўніны, — было захаванае і цалкам пацверджанае права ўласнасці на землі і маёмасць, што былі ва ўладанні грамадзянаў. Польшча, вырваўшыся з абдымкаў трох імперый, усімі сіламі імкнулася цывілізавацца.

...Наша хата была вялікая. Зробленая з трох зрубаў, яна мела два ўваходы — парадны і чорны. Складалася з вялікай гасцёўні, чатырох спальных пакояў (мужчынскіх і жаночых), сталовай, кухні, кладоўкі. Месца ў ёй хапала, але зробленая яна была проста, на скорую руку, адразу пасля вайны. Многія пакоі былі прахадныя, ды і сам будынак звонку асаблівай прыгажосцю не вылучаўся.

Напрыканцы 1930-ых нашая сям'я вырашыла будаваць новы прыгожы дом. Наогул задума перабудовы была глабальнай і тычылася ўсяго двара. Былі адкладзеныя грошы, пачалі збіраць каменне на падмуркі. Летам 1938 г. мы распачалі працы: пабудавалі вялікі бетонны склеп і хлеў. Склеп і сёння самотна стаіць на колішнім нашым дварышчы сярод пустых Субачаў. Ён — усё, што засталося ад сядзібы...

Але вернемся ў хату. У ёй была досыць звычайная абстаноўка для жытла заможных вясковых гаспадароў 1930-ых: стол з крэсламі, ложкі, паліцы з кнігамі, гаспадарчыя шафкі, гардэробы і буфет. У буфеце — посуд. У паўсядзённым жыцці выкарыстоўвалі посуд ракаўскіх і івянецкіх майстроў. А на святы на стол ставілася парцэляна і прыгожыя прыборы з келіхамі. Пасярод стала над усім гарой узвышаўся вялікі вядзёрны самавар. У адным з пакояў быў невялікі хатні іканастас, некалькі старадаўніх абразоў, пісаных на дошках, рэшта — звычайныя, на паперы і бляхе.

Пасля працы мы ўсёй сям'ёй з задавальненнем бавілі вольны час. І гэта не было панылае сядзенне пры лучынах. Пакоі хаты асвятляліся газоўкамі. У гасцінай вісела вялікая «сямілінейная» лямпа[1]. З даўніх часоў у хаце быў грамафон. У пачатку 30-ых мы ўжо набылі чэшскі радыёпрыёмнік «Novatis», а праз некалькі гадоў набылі ў дадатак і польскі «Elektrit» з прайгравальнікам кружэлак. Ён быў машынай высокай якасці і добра лавіў хвалі розных еўрапейскіх гарадоў. Мелася і хатняя бібліятэка, якая ў гэты час папоўнілася новымі выданнямі. Да рускай класікі дадаліся Міцкевіч, Славацкі, Сянкевіч. Асабліва палюбіўся нам Міцкевіч. «Пана Тадэвуша» ведалі вялікімі кавалкамі і з задавальненнем цытавалі. З беларускіх паэтаў больш за ўсё любілі Купалу. Былі ў нас і апальныя ў СССР Ясенін, Цвятаева, Ахматава. Вельмі любілі Зошчанку.

Ішлі гады, край працягваў жыць падзелены новымі межамі, якія нажыва парэзалі не толькі зямлю, але і сем'і. На савецкім баку засталіся таксама і некаторыя нашыя сваякі. Усе яны напоўніцу хапанулі новага ладу, які неслі бальшавікі з Масквы.

Жыццё на мяжы мела свае асаблівасці. Па-першае, яно спакушала да нелегальных заняткаў — з абодвух бакоў квітнела кантрабанда. Праўда, у адрозненне ад ракаўскага кірунку, у нашай мясцовасці кантрабандыстаў асабліва не было. Хто і ставіўся да мяжы абсалютна без піетэту, дык гэта самі памежнікі з абодвух бакоў, якія штодня выпраўляліся на яе ахову. Ходзячы адзін ад аднаго на адлегласці часам у дзясятак-другі метраў, яны маглі перамовіцца і нават абмяняцца нейкай драбніцай. Рабілі гэта, не парушаючы тэрыторыі, — проста перакінуўшы рэч праз рачулку ці нейтральную паласу. З савецкага боку ляцелі катушкі нітак ці запалкі, а з польскага — брыкецікі тытуню.

Аднойчы на мяжы ля вёскі Пагост здарыўся выпадак, калі сялянскі конь з выпасу перайшоў вузкую там Вяллю і неўпрыкмет перабраўся на савецкі бок. Гаспадар пабаяўся ісці за «парушальнікам». Тым больш, што на іншым беразе якраз з'явіўся савецкі памежнік. Селянін узмаліўся да вайскоўца, просячы вярнуць кармільца. І той пасля хвіліннага вагання, агледзеўшыся па баках, падвёў каня да берага і моцным ударам дубца дэпартаваў злодзея на родны лужок. Так гаспадар не страціў памочніка, конь не трапіў у калгас, а жаўнер не ўзяў граху на душу за ўсё гэта. І ўсе з лёгкім сэрцам пайшлі сваёй дарогай. Вось такія дзівосы час ад часу адбываліся на мяжы, што існавала пасярод Беларусі доўгія 18 гадоў.

...Лета 1939-га. Сярэдзіна жніўня, гарачы поўдзень, сям'я малоціць салодкі лубін, працу перарывае солтыс Антон Будзька з вёскі Лазавыя, які прывёз позву на мабілізацыю брату Міхасю. На зборы дзве гадзіны. Маці і сёстры ў слязах збіраюць Міхася...

Заканчэнне на стар. 7 »

[1] Шырыня кнота «7 ліній» — 18 мм, ён давае яркае і роўнае асвятленне.

# Ішлі гады́…

## Фрагмент з кнігі «Сцебуракаў лёс»

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6**

Памятаю, як, сыходзячы з дому ў апошні раз, Міхась адмовіўся браць з сабой ежу, узяў толькі грошы. Я вызваўся праводзіць яго. Тры кіламетры да станцыі ехалі з братам адмыслова на адным ровары, каб мне пасля прыгнаць яго дахаты.

Болей мы з Мішам ніколі не пабачыліся. Адзіны ліст мы атрымалі ад Міхася з вайсковага гарадка Гелянова, што пад Маладэчнам, дзе стаяў 86-ы Пяхотны полк. З ліста дазналіся пра яго размеркаванне ў 81-ы полк Стральцоў імя Стафана Баторыя ў Горадні…

17 верасня вайна прыйшла і ў Субачы. Раніцай з усходу пачалі даносіцца гукі ружэйна-кулямётнай страляніны і рэдкіх гарматных выбухаў. Чырвоная армія пачала свой вызвольны паход на Захад. Малалікія гарнізоны Корпуса аховы памежжа і вайсковыя часткі, што дыслацыраваліся на ўсходзе, аказалі супраціў, але былі змятыя стакроць мацнейшымі сіламі Саветаў. Па дарогах пацягнулася вайсковая тэхніка, кавалерыя і доўгія шэрыя калоны пяхоты.

Добра памятую той вераснёўскі дзень, калі бацька пацягнуў усю нашую сям'ю сустракаць бальшавікоў на станцыю. На пероне каля будынка княгінінскага вакзала была ўсталяваная трыумфальная арка, упрыгожаная гірляндамі з дзеразы і кветкамі. Усе, ад малых да старых, адзеліся ў найлепшае — дэмісезонныя палітоны, строі, капелюшы — і выйшлі з вітальнымі транспарантамі насустрач. Не шкадаваў інструментаў невялікі аркестр. На перон з грукатам падкаціў паравоз. З вагона высыпала купка таварышаў у скуранках і гімнасцёрках. Спыніліся, пачалі аглядацца. Узнікла паўза, некаторыя госці так і засталіся на прыступках, трымаючыся за парэнчы, іншыя, хто паспеў спусціцца, ледзь не сабраліся лезці назад. Сярод прыезджых пачуліся ўстрывожаныя галасы: «Куды мы трапілі? Дзе мітынг вызваленых беларускіх сялян? Сабраліся ж адныя буржуі!». Упаўнаважаны арганізатар сустрэчы ледзь даў рады патлумачыць, што гэты натоўп і ёсць тыя «трудзяшчыеся», што прагнулі вызваліцца ад панскага ярма…

Першыя тыдні на «вызваленых» землях усё, за выняткам польскіх дзяржаўных установаў, працавала ў ранейшым рэжыме. У крамах без абмежаванняў прадаваўся тавар, корчмы і кавярні паілі і кармілі гасцей як і раней. Курс рубля быў прыраўняны да злотага, абодва яны былі ва ўжытку адначасова[2]. Злоты, дарэчы, быў у абарачэнні да студзеня 1940 г., калі яго цалкам замяніў рубель.

Мы, дзеці, жылі звыклым жыццём, але некаторыя змены пачалі адчуваць і на сабе. Школьныя заняткі ў нас не прыпынялі, але мясцовых настаўнікаў хутка пачалі замяняць кадрамі з усходу — збольшага з Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Іх манеры, паводзіны, знешні выгляд былі для нас нязвыклымі… Вось выпадак, які ілюструе на простым прыкладзе розніцу.



Субачы. Хата і гаспадарчыя пабудовы. 1930-ыя гг.

Брат Косця неяк пазнаёміўся з адной з такіх новых настаўніц. Ён запрасіў маладую і прывабную дзяўчыну на госці ў Субачы. Яе, канешне, запрасілі на абед і пасадзілі за стол. Паненка найперш збянтэжылася ад таго, што не ведала, як карыстацца сталовымі прыборамі, а пасля больш — калі пабачыла вялікую талерку са сметанковым маслам. Агледзеўшы гэты прадукт у такой колькасці, яна запытала ў гаспадароў: «А што гэта вы так шмат яго паставілі на стол?». Пабачыўшы нашае здзіўленне, дадала: «Нам у педвучэльні казалі, што гэта небяспечна, калі яго ўжываць шмат! Лепей карыстацца камбіжырам!».

1941 год, нямецкая акупацыя…

Вайна застала мяне ў гасцях у сябра Міколы Карозы ў Вялейцы. Тут жа апынуўся і старэйшы брат Косця, які быў выкліканы на прызыўны пункт. Яго разам з іншымі мабілізаванымі пратрымалі двое сутак у няпэўнасці, а потым далі загад разыходзіцца па хатах. Самі супрацоўнікі ваенкамата, спешна пагрузіўшыся ў машыны, з'ехалі на ўсход.

Актыўных баявых дзеянняў летам 1941 г. у нашай мясцовасці не было. Немцы прайшлі імклівым наступам на ўсход, не сустракаючы супраціву. Адна невялікая калона нямецкай бранятэхнікі, праўда, праходзіла праз Крывічы. Напамінам пра яе застаўся танк, што сапсаваўся і быў пакінуты на ўзбочыне…

Адной з першых партызанскіх акцый, што адбылася ў ваколіцах Крывічоў, стаў падрыў міны на бальшаку. Ахвярай таго выбуху стала мясцовая дакторка Мікуліч, якая ехала па тэрміновай патрэбе да цяжарнай сялянкі… Партызанскі тэрор зазналі і нашыя сваякі. Цётка Лізавета, што выйшла за Міколу Гайлу ў вёску Паграбішча Хаценчыцкай воласці, жыла, займаючыся звычайнай сялянскай працай. Але і ў сям'і цёткі не абышлося без трагедый, тыповых для таго цяжкага часу. Нечакана атрымала працяг гісторыя, што распачалася яшчэ за Польшчай. Тады парабак Паўла Гайлы, што працаваў у яго на гаспадарцы, неяк прапіў частку зерня, прызначанага на веснавую сяўбу. За гэтую справу яго, вядома, пакаралі, выгнаўшы на ўсе чатыры бакі. Нягеглы работнік знік, і на яго хутка забыліся. Мінула некалькі гадоў, і вось падчас нямецкай акупацыі той парабак вярнуўся чырвоным партызанам. Ён загадаў Паўлу апрануцца ў дарогу, запрэгчы каня і павезці яго ў нейкую мясціну па пільнай патрэбе. Яны выехалі з падворка, праз нейкі час за вёскай прагучаў стрэл… Усе адчулі нядобрае, але сярод ночы пабаяліся ісці глядзець, што адбылося. Толькі раніцай агледзелі за вёскай мёртвага Паўлу, забітага тым адзіночным стрэлам. Ні каня з санямі, ні вопраткі пры ім не было.

Мы таксама пазнаёміліся з іх «добразычлівасцю». Памятаю, у свой першы візіт на наш хутар Субачы, апроч ежы, партызаны забралі абсалютна ўсе выходныя мужчынскія строі і… патэфон — рэчы безумоўна неабходныя ў лесе для барацьбы з ворагам… Але перажываць не было калі — здараліся падзеі і пастрашней. Многія сяляне, што спрабавалі абараніць сябе ці сваю маёмасць, плацілі за гэта жыццём.

Ахвярай ваеннага тэрору ў нашым краі стала таксама родная сястра Максіма Танка, якую лясныя бандыты забілі разам з дзіцём пад Касцяневічамі.

Акрамя партызанаў і немцаў, са зброяй хадзіла і паліцыя. Яе аддзелы пачалі фарміравацца ў пачатку вайны. Першым часам набіралі добраахвотнікаў. Пасля — прымусова мабілізавалі. Так здаралася, што палова адной вёскі ішла ў паліцыю, а другая — у партызаны. Потым напачатку паліцаі палілі тую палову вёскі, дзе былі партызанскія хаты, пасля партызаны палілі іншы канец — паліцэйскі. Так, напрыклад, згарэла мястэчка Вязынь на Вялейшчыне…

Некаторыя паспявалі за вайну паслужыць і ў адных, і ў другіх гаспадароў, мяняючы форму па меры жыццёвай неабходнасці.

Адступленне Вермахта было гэткім жа імклівым, як і прыход у 1941 г. Бясконца ішлі па чыгунцы эшалоны з тэхнікай і жаўнерамі, рушылі калоны, абозы, людзі. Усё гэтак жа, як напачатку, — толькі ўжо ў адваротным кірунку, на Захад. Уздоўж чыгункі зноў лёталі самалёты і скідалі бомбы на станцыі, гэтым разам ужо савецкія.

Апошнімі па дарогах ішлі невялікія нямецкія аддзелы. Яны, загнаныя ў кут, часам агрызаліся, уступаючы ў апошні смяротны бой. Так, недалёка ад Субачаў патрапанае аддзяленне засела ў склепе адной хаты, захапіўшы ў закладнікі гаспадара. Савецкія жаўнеры штурмам узялі апошні прытулак немцаў, пасля перастрэлкі закідаўшы гранатамі ўкрыцце. Гаспадар страціў нагу, загінулі ўсе немцы і адзін савецкі афіцэр.

У саміх Субачах на таку ў Аўгустына Радзевіча схавалася ажно 20 салдатаў. Яны сядзелі тры дні, а потым папрасілі гаспадара выдаць іх месцазнаходжанне, але ні ў якім разе не партызанам (ведаючы, чым скончыцца такая капітуляцыя), а рэгулярным часткам Чырвонай Арміі. Радзевіч выканаў просьбу, і немцы здаліся.

Разам з немцамі сыходзілі і тыя, хто не жадаў жыць пад Саветамі. Адзін з такіх быў і наш сваяк — сын цёткі Хрысціны, мой хросны бацька Міхаіл Разанцаў. Хросны, як і многія жыхары Заходняй Беларусі, катэгарычна не ўспрыняў савецкай улады. З прыходам немцаў служыў у беларускіх вайсковых фармаваннях. З іх адступленнем таксама пакінуў радзіму…

Першае, што зрабіла савецкая ўлада, — пачала патрабаваць тлумачэнні ад жыхароў вызваленых тэрыторый: чаму не былі ў Чырвонай Арміі? Чаму не пайшлі ў партызаны? Чым займаліся пры немцах? Па сутнасці, кожнаму, хто жыў гэтыя гады пад нямецкай акупацыяй, трэба было апраўдацца, чаму ён не знайшоў магчымасці загінуць за бальшавікоў. Шмат каму гэта не ўдалося. Усе, хто хоць неяк быў звязаны супрацай з любымі органамі акупацыйнай адміністрацыі, траплялі ў лік здраднікаў і калабарантаў. Мерай пакарання былі заўсёды рэпрэсіі — ад лагераў і высылак да расстрэлаў. Тысячы беларусаў трапілі ў жорны НКУС-МДБ па новых справах.

Не маючы магчымасці змагацца з савецкай сістэмай, нашая сям'я, распрадаўшы што можна, пакінула Субацкую гаспадарку. Мая маці з'ехала да дачкі Ніны ў вёску Паграбішча… Зямля, палітая потам некалькіх пакаленняў, была кінутая, але сям'я Сцебуракаў і надалей заставалася ў спісах кулакоў, а значыць — класава чужога элементу і патэнцыйнага ворага народа.

Калі мы патрапілі ў тыя спісы, нашая вялікая радзіна стала ад нас адварочвацца, каб, крый Божа, камуністы не засумняваліся і ў іх. Гэта было вельмі крыўдна і балюча.

Смерць бацькі і разбурэнне субацкай гаспадаркі не стала для нас завяршэннем злыбедаў. Выродліваму сталінскаму рэжыму і гэтага было мала: у верасні 1951 г. Савет Міністраў СССР прыняў спецыяльную пастанову «Аб высяленні кулакоў з Беларускай ССР». Саўмін БССР пастановай ад 7 красавіка 1952 г. зацвердзіў спісы кулацкіх сем'яў, што падлягалі высяленню ў аддаленыя раёны СССР. З Маладэчанскай вобласці падлягала высяленню 512 сем'яў (ці 2197 чалавек). Накіроўваліся яны ў Паўднёва-Казахстанскую вобласць Казахскай СССР. У гэтым спісе апынулася і нашая сям'я.

Увесну 1952 г. маці атрымала позву ва ўпраўленне МДБ у Маладэчне, дзе ёй зачыталі пастанову «Аб высяленні кулацкіх элементаў ў аддаленыя раёны СССР на вечнае пасяленне». Яна згадвала: «Выйшаўшы з будынка разам з сяброўкамі па няшчасці, мы галасілі, спалоханыя страшным прысудам. Побач тым часам праходзіў маёр, які запытаўся: «Чаго галосіце, бабы?». Мы адказалі: «На вечнае пасяленне высылка!», а ў адказ пачулі: «Дуры вы, бабы! Няма нічога вечнага!».

Маёр сапраўды меў рацыю, але каб спраўдзіць яго словы, сям'і яшчэ спатрэбіцца перажыць доўгія і цяжкія гады ў выгнанні…



Міхась Сцебурака (у цэнтры) перад пачаткам Другой сусветнай. 1939 г.

---

[2] Да 17 верасня за 1 злоты давалі 4 рублі, з прыходам саветаў курс штучна выраўнялі на 1 да 1.

# Ліза



Віктар ВАРАНЕЦ

Дзверы бясшумна расчыніліся, і ў залу, смешна перабіраючы кароткімі ножкамі, увайшоў невысокі дзябёлы мужчына, чыё імя ведаў кожны жыхар Еўропы — Напалеон Банапарт, імператар Францыі. Прысутныя пачціва схілілі галовы, цярпліва стоячы ўжо амаль паўгадзіны каля вялікага круглага стала.

— Добры дзень, спадарства, — прывітаўся імператар.

Напалеон уважліва паглядзеў на кожнага з прысутных. Гэта былі лепшыя з лепшых афіцэраў непераможнай французскай арміі, людзі, абавязаныя ўсім свайму імператару. Даву, Нэй, Мюрат, Удзіна — імёны палкаводцаў, перад якімі дрыжаць арміі Еўропы. І зрабіў іх такімі ён, Напалеон.

Банапарт падышоў бліжэй да стала, на якім ляжала вялікая карта.

— Панове, нас з вамі чакае новая вайна. Бог мне сведка: я з усіх сіл імкнуўся пазбегнуць яе, але рускі цар Аляксандр гэтага не ацаніў. Ён цынічна мяне падмануў. Ён не падтрымаў кантынентальную блакаду Англіі, хаця і абяцаў, ён нахабна патрабуе вывесці маё войска з Германіі, хаця гэта не яго землі. Яму ўвогуле, бачыце, не падабаецца наша еўрапейская палітыка. Што ж, час расставіць кропкі і загнаць рускага мядзведзя ў ягоны бярлог.

Напалеон схіліўся над картай.

— Наша дыспазіцыя, спадары! 12 чэрвеня пяхотныя дывізіі Марана, Даву і кавалерыя Мюрата перапраўляюцца праз Нёман і наступаюць на Коўна. За імі крочыць мая гвардыя. У раёне Вільні мы павінны навязаць 1-ай рускай арміі Барклая дэ Толі бой і знішчыць яго армію.

Руку ўзняў маршал Мюрат.

— Сір, а калі рускія адмовяцца ад бою і адступяць, як гэта рабілі немцы?

— Тады, маршал, усе карпусы паварочваюць на поўнач і наносяць удар па 2-ой рускай арміі князя Багратыёна ў раёне Ваўкавыска. Таму вельмі важна, каб кароль Вестфаліі са сваім польска-саксонска-вестфальскім войскам адразу ж сашчапіў боем Багратыёна і не дазволіў рускім адысці на ўсход. Ваша армія ў два разы большая за рускую, кароль.

Напалеон павярнуў галаву да брата і замаўчаў.

— Усё будзе зроблена, сір, — важна адказаў Жэром.

— Добра, — вымавіў Напалеон, — працягнем. 17 чэрвеня ў накірунку Прэны выступае вайсковая групоўка Багарнэ, у гродзенскім напрамку дзейнічае групоўка Жэрома Банапарта, а з боку Варшавы, фарсіруючы Буг, атакуе рускіх Аўстрыйскі корпус генерал Шварцэнберга. Ваша мэта, спадары, Смаленск. Затым, аб'яднаўшы сілы, вы крочыце на Маскву. 10-ы корпус маршала Макдональда аваладае Рыгай, а корпус маршала Удзіна — Полацкам. Ваша наступная і галоўная мэта — Пецярбург. У гэтай кампаніі французская армія налічвае 390 тысяч адборных, правераных у баях салдат, якія павінны зімаваць у зрынутай Маскве. Вашы пытанні? Тады за справу!

Дырэктар «Асаблівай канцылярыі ваеннага міністра» генерал-ад'ютант Закрэўскі прыехаў у Дрысу, калі на небе запаліліся першыя зоркі. Каля гарадской брамы яго сустракаў афіцэр штаба 1-ай рускай арміі капітан Шаблін.

— Ваша правялебнасць, — казырнуў ён генералу, — камандуючы Барклай-дэ-Толі чакае Вас у штабе арміі. Дазвольце паказаць вам дарогу.

— Паказвайце, — пагадзіўся Закрэўскі.

Капітан ускочыў на каня, якога падвёў салдат, і рушыў наперад. Вазок з генералам пакаціў следам.

Нядаўна створаная пры ваенным міністэрстве сакрэтная арганізацыя, якую і ўзначальваў Арсеній Андрэевіч Закрэўскі, не фігуравала ні ў якіх справаздачах, дакладах, а штат яе абмяжоўваўся дырэктарам, шасцю экспедытарамі і перакладчыкам. Аднак магчымасці гэтай арганізацыі былі бязмежнымі. Яе супрацоўнікі працавалі ў трох асноўных напрамках: стратэгічная разведка, куды ўваходзіў збор інфармацыі пра палітычны і ваенны стан магчымага супраціўніка; тактычная разведка — збор даных аб дыслакацыі супраціўніка на яго тэрыторыі і тэрыторыі сумежных дзяржаў; контрразведка, якая займалася выяўленнем і нейтралізацыяй шпіёнаў. Фінансаванне было арганізавана на найвышэйшым узроўні. Дзясяткі тайных агентаў працавалі на канцылярыю ў розных краінах свету.

У штабе Першай арміі Закрэўскага чакалі сам камандуючы генерал ад інфантэрыі Барклай-дэ-Толі, начальнік штаба генерал-маёр Ярмолаў і палкоўнік кватэрмейстарскай часткі Толь. Прывітаўшыся з госцем, усе бліжэй падышлі да карты, што была прымацавана да сцяны пакоя. Барклай-дэ-Толі павярнуўся да Ярмолава:

— Калі ласка, Аляксей Пятровіч, пазнаёмце спадара генерал-ад'ютанта з нашым становішчам.

Ярмолаў кіўнуў галавою, узяў са стала ўказку і пачаў дакладаць.

— Спадарства, Другая заходняя армія пад камандаваннем генерала ад інфантэрыі Пятра Іванавіча Багратыёна пад моцным ціскам войск Жэрома Банапарта пакінула Гродна і рухаецца на Мінск. Аднак, паводле данясенняў нашай разведкі, Мінск ужо захоплены французамі. Паралельна арміі Багратыёна рухаюцца сілы маршала Даву. Такім чынам, Другая заходняя армія акружана з поўначы, і існуе небяспека акружэння яе з поўдня. Корпус атамана Платава пакуль прыкрывае армію Багратыёна, адбіваючыся ад французскага авангарду. Але пагроза поўнага акружэння і знішчэння арміі вельмі актуальная. Нам неабходна на некалькі дзён затрымаць Жэрома Банапарта ў Гродне, каб выцягнуць Другую армію з французскага мяшка.

Барклай-дэ-Толі паглядзеў на Закрэўскага.

— Арсеній Андрэевіч, як Вы зразумелі, ваенных сіл, здольных прыпыніць на тры-чатыры дні французаў у Гродне, мы не маем. Уся надзея толькі на Вас і Вашу агентуру. На кану не толькі тысячы жыццяў нашых салдат, а, магчыма, і сыход усёй ваеннай кампаніі.

Закрэўскі ў глыбокай задуменнасці падышоў да акна і пачаў барабаніць пальцамі па шыбе. У пакоі завісла працяглая паўза. Нарэшце генерал-ад'ютант павярнуўся да прысутных.

— Я ўсё зразумеў, спадары. Думаю, на некалькі дзён мы здолеем затрымаць Жэрома. Дазвольце пакінуць вас, каб заняцца гэтай аперацыяй.

Ужо добра-такі сцямнела, калі да невялічкай вясковай хаты, якую займаў Закрэўскі, пад'ехала чорная карэта з наглуха закрытымі вокнамі. Адчыніліся дзверы, і цёмная постаць праслізнула ў хату. Дырэктар тайнай канцылярыі чакаў госця, адправіўшы з дома і пакаёўку, і ад'ютанта. Сервіраваны на дзве персоны стол быў па-паходнаму сціплы: смажаная рыба, кавалкі прыгатаванай дзічыны і бутэлька чырвонага віна.

Рыпнулі дзверы.

— Добры вечар, Арсеній Андрэевіч, — прывітаўся начны візіцёр прыемным жаночым голасам. — Я магу скінуць плашч?

— Так, — падхапіўся з крэсла Закрэўскі, — здымайце, і прашу за стол.

Плашч адляцеў на ложак, і перад генерал-ад'ютантам ужо стаяла неверагоднай прыгажосці жанчына ў мундзіры паліцэйскага.

— Што гэта за маскарад, мадам? — з цікавасцю запытаў генерал.

— Ваш чалавек сказаў, што справа вельмі спешная. Нічога лепшага ў тую хвіліну пад рукой не аказалася. Давялося пазычыць мундзір, праўда, без дазволу гаспадара, — засмяялася жанчына, села за стол і ўважліва яго агледзела. — Нешта небагата цяпер жывуць дырэктары тайных міністэрстваў…

Закрэўскі ўсміхнуўся:

— Дактары не раяць шмат есці на вячэру. Ён разліў па фужэрах віно.

— За сустрэчу!

Жанчына зрабіла глыток, здзіўлена акругліла вочы і дапіла віно да канца.

— Бачу, добрым вінОм забяспечваюць тайную выведку, спадар генерал.

— Ну хоць штосьці добрае павінна даставацца і выведцы, — засмяяўся Закрэўскі. — А зараз пакаштуйце дзічыну, упэўнены, не пашкадуеце.

— Дзякуй, але лепш наліце мне яшчэ віна, — папрасіла госця. — І я слухаю Вас, Арсеній Андрэевіч.

Генерал няспешна напоўніў фужэр сваёй госці, крышку ліную і сабе.

— Не буду, шаноўная Лізавета Іванаўна (так, цяпер Вы Лізавета Іванаўна), у чарговы раз узгадваць, што Вы наш найлепшы агент і што выкарыстоўваем мы Вашы здольнасці толькі ў экстраных выпадках.

Жанчына ўсміхнулася і моўчкі адпіла глыток віна. Генерал працягваў:

— Сёння якраз такі выпадак. Ад Вас будзе залежыць жыццё дзясяткаў тысяч рускіх салдат, а, магчыма, і лёс Расійскай імперыі.

— Гэта ўжо цікава, — заўважыла Лізавета Іванаўна.

— Вам трэба затрымаць на пару дзён у Гродне Жэрома Банапарта. Гэта дасць магчымасць арміі Багратыёна пазбегнуць акружэння і поўнага знішчэння. Як Вы гэта зробіце, я не ўяўляю, але Вашыя папярэднія аперацыі ў Стакгольме і Вене даюць падставу верыць, што толькі Вы і здольны на такую справу.

Ліза весела рассмяялася:

— Ах, генерал, мы і самі не заўсёды ведаем, на што здольныя. Добра, давайце абмяркуем дэталі нашай аперацыі.

Гарэзлівы праменьчык сонца прабегся па сцяне і прысеў на вока каралю Вестфаліі Жэрому Банапарту. Той паспрабаваў адагнаць нахабнага зайчыка, але, зразумеўшы ўсю безвыніковасць гэтай справы, расплюшчыў вочы. За акном віравала лета з яго зялёнай садоў, блакітам неба і пяшчотай сонца. Побач з каралём, нацягнуўшы коўдру да самага носа, спала незнаёмая бландзінка, раскідаўшы валасы па ўсёй падушцы. Канешне, учора Жэром яшчэ ведаў яе імя, але сёння такая драбяза ўжо не мела ніякага значэння. Не, усё ж гэты Гродна — прыемны горад. Жэром салодка пацягнуўся. У дзверы асцярожна пашкрабліся.

— Уваходзьце, — запрасіў Банапарт.

У пакой увайшоў палкоўнік Рэнье, ад'ютант караля Вестфаліі.

— Добрай раніцы, Ваша вялікасць! — бадзёра прывітаўся палкоўнік. — Ужо дванаццаць гадзін, і Вас чакаюць новы мэр Гродна і гарадская шляхта.

— Так. Перш за ўсё справы, — прытворна ўздыхнуў кароль і злёгку патузаў сваю начную госцю за вуха. — Спадарыня, на жаль, вымушаны Вас пакінуць. Вайна працягваецца.

Ён жвава ўскочыў з ложка, накінуў на плечы пададзены Рэнье халат ды імкліва выйшаў са спальні, па дарозе шапнуўшы ад'ютанту:

— І разбярыцеся, палкоўнік, з дамай.

Амаль да пяці гадзін вечара Жэром Банапарт, па яго ж словах, «забіваў уласнае жыццё». Ён быў вымушаны сустрэцца з маршалкам Людвікам Панцажынскім і новапрызначанымі гарадзенскімі чыноўнікамі, камендантам горада Лебрэнам і армейскім інтэндантам Шасенонам. Банапарт падпісваў нейкія паперы і выслухоўваў шматлікія просьбы, нават не намагаючыся зразумець іх сутнасць. Караля адольваў смяротны сум. Нарэшце ён выклікаў да сябе ваеннага губернатара барона дэ Бруна і, спаслаўшыся на вялікую занятасць, перакінуў астатнія справы на таго, а сам вярнуўся ў палац былога віцэ-губернатара Максімовіча, дзе ў поўнай знямозе адкінуўся ў крэсле. Праз хвіліну ў пакой зайшоў Рэнье.

— Ваша вялікасць, Вас просяць пра аўдыенцыю, — салодкім голасам праспяваў палкоўнік.

— Рэнье, ну якая яшчэ аўдыенцыя? — жалобна прастагнаў кароль. — Ці ж Вы не бачыце, што я ледзьве жывы? Гэтыя справы высмакталі з мяне ўсе сілы…

— Мой кароль, — настойліва працягваў Рэнье, — штосьці мне падказвае, што гэты візіцёр адновіць Вашы сілы.

— Ну добра, — махнуў рукой Жэром, — няхай заходзіць, але пад Вашу адказнасць, палкоўнік.

Рэнье адчыніў шырока дзверы, і ў залу ўвайшла жанчына неверагоднай прыгажосці. Яе бяздонныя зялёныя вочы іскрыліся бессаромным выклікам, а пухкія чырвоныя вусны абяцалі незабыўныя вар'яцкія ночы. Жэром імгненна ўскочыў з крэсла і амаль падбег да прыгажуні.

— Спадарыня, якому анёлу я павінен памаліцца за шчасце бачыць Вас у гэтым сціплым палацы? — пранікнёна запытаў кароль і прыклаўся вуснамі да рукі жанчыны. — Як Вас завуць, душа мая?

— Ах, Ваша вялікасць, — томна прамовіла госця, — гэта я шчаслівая бачыць такога вядомага і разам з тым такога прыгожага палкаводца. Я Лізавета Іванаўна Валовіч, недалёка ад Смаленска мой маёнтак. Вось у сувязі з ім і ўзнікла адна вельмі важная справа, а Ваш ад'ютант ласкава падказаў, што толькі кароль можа яе вырашыць.

Банапарт узяў жанчыну і за другую руку.

— Але, мая дарагая, мы вырашым усе Вашы пытанні толькі пры ўмове, што Вы са мной сёння павячэраеце.

Лізавета апусціла вочы, яе шчокі злёгку паружавелі, і яна ледзь чутна прамовіла:

— Ваша вялікасць, я замужам.

— Тады чаму Вы, а не муж, вырашаеце важныя пытанні? — строга пацікавіўся кароль.

— Два тыдні назад я прыехала сюды пагасцяваць да сваякоў, а муж застаўся дома. А тут распачалася гэтая вайна. А я…

— Ні слова больш, мая дарагая, — спыніў яе Жэром. — Усё астатняе пры вячэры. Гэта ж проста цудоўна: пакуль мы не ўзялі Смаленск, Вы абсалютна свабодныя!

— Вашая вялікасць, — Валовіч нарэшце ўзняла вочы на Банапарта, — здаецца, я губляю галаву пад Вашым напорам.

Пасля няспешнай вячэры ўдвух Лізавета Валовіч падарыла каралю Вестфаліі такую бурную і страсную ноч кахання, што пад раніцу той спаў мярцвецкім сном. Але доўжыўся гэты сон не больш за тры гадзіны. Прыгажуня расштурхала Жэрома, з'явіўшыся перад ім у касцюме гусара, і загадала тэрмінова апранацца. На вуліцы ім падвялі двух аседланых коней. І ўжо праз некалькі хвілін пáра праскакала па ранішнім Гродне да маёнтка Ласосна, дзе іх чакаў кульгавы стары. Ён правёў Лізу і Жэрома ў невялічкі дамок з запацелымі шыбамі.

— Што гэта такое, дарагая? — з цікавасцю запытаў кароль.




Фота aliradar.com

Заканчэнне на стар. 9 »

# Ліза

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 8

— Руская лазня, у якой звычайна па́рацца закаханыя разам! — са смехам растлумачыла Ліза, схапіла свайго кавалера за руку і зацягнула ўнутр. Гэта была абсалютна новая для Жэрома забава: яны парыліся, выскоквалі голыя ў рэчку, вярталіся назад, займаліся каханнем і зноў парыліся. Калі праз некалькі гадзін да лазні пад'ехала карэта з Рэнье, кароль ледзьве перасоўваў ногі. Ад'ютант беражліва адвёз яго ў палац і паклаў спаць. У прыёмнай караля тым часам сабраўся ўжо добры такі натоўп візіцёраў: ваенныя, чыноўнікі, шляхта. Але кароль нікога не прымаў. Нарэшце ў прыёмную рашуча ўвайшоў ваенны ў чыне капітана і далажыў:

— Спецыяльны кур'ер ад імператара Напалеона Банапарта. Пакет для караля Вестфаліі.

Рэнье ўзяў пакет, пакруціў у руках і , паклаўшы яго ў стол, прамовіў:

— Добра, капітан, я перадам Яго Вялікасці пакет.

А сямнаццатай гадзіне ў прыёмнай з'явілася Ліза Валовіч.

— Добры дзень, Мішэль, — па-свойску прывіталася яна з ад'ютантам і прайшла ў пакоі караля. Рэнье нават не паспеў раскрыць рота. А праз трыццаць хвілін яму было аб'яўлена, што кароль едзе на начное паляванне ў пушчу.

— Ваша вялікасць, — Рэнье паспрабаваў затрымаць Жэрома хоць на хвіліну, — даставілі пакет ад імператара.

— Добра, Рэнье, — адказаў кароль, — я заўтра пачытаю.

Палкоўнік толькі і паспеў адправіць разам з імі невялічкі атрад аховы. Вярнуліся паляўнічыя пад раніцу, прыцягнуўшы з сабой цэлы воз набітай дзічыны. Вочы Жэрома свяціліся ад шчасця.

— Рэнье, — даверліва сказаў ён ад'ютанту, — я, здаецца, ніколі не быў такім задаволеным і такім стомленым адначасова.

Калі кароль прачнуўся, разам з кубачкам кавы Рэнье нарэшце ўручыў Жэрому ліст ад Напалеона. Банапарт паглыбіўся ў чытанне. Паступова твар яго пачаў змяняцца, пакрываючыся чырвонымі плямамі. У гэтую хвіліну дзверы спальні адчыніліся, і ўвайшла Валовіч.

— Як спалася Вашай вялікасці? — пяшчотным голасам запытала жанчына.

— Мадам, я толькі што атрымаў вымову ад брата.

— Ад якога брата? — нібы не разумеючы, пацікавілася Лізавета.

— Ад імператара Францыі Напалеона Банапарта.

— І што Ваша вялікасць такое дрэннае зрабіла?

— У тым, Ліза, і справа, што я нічога не зрабіў. А павінен быў яшчэ пазаўчора выступіць супраць Баграціёна і не даць адысці яму на ўсход.

— Ах, Ваша вялікасць, якая гэта дробязь, — бесклапотна засмяялася Валовіч. — Я добра ведаю рускіх: яны доўга запрагаюць! І Вы з такой магутнай арміяй умомант дагоніце гэтага Баграціёна.

— Вы так думаеце, Ліза? — крыху ажываючы, запытаў кароль.

— Канешне, мой дарагі, — яна села на ложак і абняла Жэрома. — Зараз Ваша кіска пяшчотна пашкадуе свайго караля, затым мы паедзем у палац губернатара, дзе для французскіх афіцэраў будзе баль-маскарад. Ну а заўтра з раніцы мы кінемся лавіць гэтага агіднага Баграціёна.

Была ўжо глыбокая ноч. Горад моцна спаў, і толькі губернатарскі палац поўніўся святлом, музыкай і смехам. Жэром, ужо на добрым падпітку, сядзеў у акружэнні прыгожых гарадзенак і выслухоўваў ад іх кампліменты. Раптам дзверы з трэскам адчыніліся, і ў залу ўвайшоў палкоўнік французскай арміі з трыма грэнадзёрамі. Музыка абарвалася. Палкоўнік адшукаў вачыма Жэрома Банапарта, падышоў да яго і працягнуў пакет.

— Пасланне ад імператара.

Крыху збялелы, Жэром раскрыў пакет і пачаў чытаць. Затым цяжка падняўся з крэсла і абвёў позіркам залу.

— Дзе Лізавета Валовіч? — глухім голасам запытаў Жэром.

Але жанчыны ў зале не было.

— Тэрмінова адшукайце яе, — папрасіў кароль Рэнье і, зірнуўшы на палкоўніка з узброенымі салдатамі, гучна абвясціў: — Спадары афіцэры, прашу ўсіх вярнуцца ў свае палкі. Праз дзве гадзіны мы выступаем!

Затым зноў перачытаў ліст ад брата: «Загадваю выступіць тэрмінова супраць арміі Баграціёна без прамаруджвання. Інакш гэта будзе расцэньвацца як здрада імператару, і палкоўніку Дзювалю дадзены паўнамоцтвы на Ваш арышт».

Вярнуўся Рэнье і вінаватым голасам абвясціў, што Лізаветы Валовіч у палацы няма, але слугі бачылі, як яна гадзіны дзве назад села ў карэту і кудысьці з'ехала.

Кароль Вестфаліі Жэром Банапарт апусціўся ў крэсла, прыклаў далоні да твара і па-дзіцячы заплакаў, прыгаворваючы:

— Ліза, мая Ліза, чаму Вы мяне пакінулі?

Толькі раніцай армія Жэрома змагла выйсці з Гродна і кінуцца даганяць Баграціёна. Але час быў упушчаны: Другая заходняя армія ўжо стаяла ў Нясвіжы, насміхаючыся над павольнасцю «караля Яромы», як празвалі Жэрома рускія салдаты.

Сёмага ліпеня ў Нясвіжы да Радзівілаўскага палаца, дзе мясціўся штаб арміі, пад'ехала карэта, з якой выйшаў генерал-ад'ютант Закрэўскі і, падаўшы руку, дапамог выбрацца даме, чый твар быў закрыты нізка апушчаным капюшонам. Яны прайшлі праз варту і апынуліся ў вялікай зале, дзе іх сустрэў князь Баграціён.

— Ваша светласць, дазвольце Вам прадставіць графіню Лізавету Іванаўну Валовіч, лепшага агента «Асаблівай канцылярыі», — сказаў Закрэўскі.

— І самага прыгожага агента, — дадаў князь і прыклаўся да рукі Валовіч.

— Ах, князь, — весела адказала Лізавета Іванаўна, — я таксама даўно марыла пазнаёміцца з Вамі. Сёння нашы зоркі сышліся.

Баграціён адчуў, як патанае ў яе д'ябальскіх вачах, і толькі сабраўшы ўсе сілы ў кулак, змог адвесці позірк.

— Прашу сядаць, — запрасіў камандуючы і падсунуў госці крэсла. Сам сеў насупраць, а генерал-ад'ютант уладкаваўся на канапе.

— Я так разумею, — працягнуў размову Баграціён, — што Лізавета Валовіч — ваш творчы псеўданім, спадарыня?

Жанчына толькі ўсміхнулася, не адказаўшы нічога.

— Тым не менш, мадам, — князь падняўся і надаў твару выраз урачыстасці, — па даручэнні расійскага імператара дазвольце ўручыць Вам ордэн святога Уладзіміра. Дзякуючы Вам, Лізавета Іванаўна, мая армія выйшла з магчымага акружэння і гатова далей біць французаў.

Графіня паднялася з крэсла, у нейкай задуменнасці прыняла ад Баграціёна ўзнагароду і з хвіліну пастаяла моўчкі.

— Дзякуй, князь, за ордэн, — нарэшце вымавіла Валовіч, — і хай Вас Бог бароніць у гэтай вайне.

Яна павярнулася і пайшла да дзвярэй. Але, зрабіўшы пару крокаў, спынілася і павярнулася да Баграціёна.

— Ваша светласць дазволіць адну просьбу?

— Так, мадам, я слухаю Вас.

— Па загадзе Арсенія Андрэевіча я тэрмінова і на доўгі час пакідаю Расію. На жаль, знаходзячыся ў Гродне, я не змагла гэтага зрабіць сама, і вымушана прасіць Вас, Пётр Іванавіч. Бог ведае, што нас чакае наперадзе, таму калі Вы пагоніце Напалеона назад і вызваліце горад, наведайце, калі ласка, Гродзенскія фарныя могілкі. У другім радзе стаіць помнік Баляславу і Марыі Ёдкам. Запаліце на іх магіле свечачку і ўспомніце, між іншым, добрым словам і мяне, Бажэну Ёдка.

Жанчына слаба ўсміхнулася і выйшла з пакоя.

# Сакавік надзею змроіў



Мікола КАНАНОВІЧ

***

*Пульхнаты снег зноў сцежкі засцілае,*
*Ішоў учора, сёння, будзе заўтра йсці.*
*Зіма лiміт свой снежны дабірае,*
*І холаду — да самае касці!*

*А то былі падумалі ўжо людзі,*
*Што ў нас тут еўрапейская зіма.*
*Не, сёлета такой зімы не будзе,*
*Бо праўдзіць баль сібірская зіма.*

*Заваліць снег нам вуліцы, дарогі,*
*Зноў будзем чысціць — больш няма каму.*
*Ніякай камунальнай дапамогі,*
*То хоць адзін паможам аднаму,*

*Бо колькі б люты ветрам не скуголіў,*
*Марозам з нас не выціскаў слязу,*
*Пяшчотны сакавік надзею змроіў,*
*Што нам яшчэ падорыць тут вясну…*

### Ягамосці

*Мы не тыя ягамосці,*
*Што былі у маладосці.*
*Запаволеў рух, і цела*
*Жыць здаровым захацела.*
*Ды няма цяпер здароўя —*
*Выйшла ўсё ад безгалоўя*
*Маладых нас, ягамосцяў,*
*У шалёнай маладосці.*
*Зменіць хутка сталасць старасць,*
*Дзе кабыла не валялась…*

*— Вось рахунак, — скажа хтось, —*
*Крыж. Магіла. Ягамосць.*

### Белы снег Вострава

*Белы снег Вострава*
*Рэжа па вострым мне*
*Вочы ў душу*
*Стратаў сваіх*
*І вёскі…*

*Жывем мы тут*
*Неданоскі,*
*Яшчэ жывем*
*Мо 8, ці 7*
*Усе*
*У старым сяле,*
*Хто застаўся…*

*Хоць я не тут,*
*А душа — дзе кут*
*Мой родны,*
*Дзе я свабодны…*

*Белы снег Вострава*
*Рэжа па вострым мне…*

***

*Лютуе мароз начамі.*
*Святлее неба над намі.*
*Вярнулася ў край зіма,*
*А волі — няма…*

### Снег

*Снегу так многа!*
*Нябачна дарогі.*
*Даўно не бачыў*
*Тут снегу такога!*
*А ён ўсё ідзе,*
*Беллю цвіце.*
*На хатах, на дрэвах*
*Так многа белага!*
*Не чарнее шаша,*
*Святлее душа.*
*Так многа снегу*
*Камусьці трэба…*

### Так многа

*Так многа*
*пустога,*
*чужога,*
*не тога.*
*Проста*
*крывая*
*вядзе*
*нас дарога*
*недзе ў тупік.*
*Абапал*
*цалік.*
*Хто збочыць*
*з крывой,*
*каб ісці*
*па прамой*
*па цаліку?*
*…Мы ўсе ў тупіку.*



Фота akspic.com

# Парог нябёсаў



Антонія ПОЦЦЫ
(1912—1938)

### Альпы

*На простападнай сцяне я заўважыла
барвовую пляму і падумала,
што гэта кроў: а гэта былі лішайнікі,
пляскатыя і бясшкодныя.
Але я задрыжала.
Тым не менш,
шалёная бліскавіца ўздыму
і вокаімгненная праўда сталіся б
палётам, і штуршком,
і пунсовым струменем
сапраўднай крыві.
Так, прыемна памерці,
калі нашае юнацтва караскаецца
ўверх па скале,
каб скарыць вышыню.
Прыемна па́даць, калі нервы і плоць,
шалёныя ад сілы,
хочуць зрабіцца душой;
калі з глыбіні расколіны
яснае неба здаецца бесстаронняй
рукой, якая дабраслаўляе горныя пікі
амаль паслухмяныя
таемнаму даручэнню,
як скамянелыя вартаўнікі.
На вяршынях, дзе вецер,
што нас кранае — гэта дыханне
таемных жыццяў,
абпаленых чысцінёй,
а сонца — усепаглынальная любоў,
і, на паўшляху да абрыва,
мігруюць аблокі
над далінамі,
адкрываючы ў разрывах
адбіткамі мары задумлівую
галізну зямлі, тады цудоўна
разбіцца аб валун, і яскравае
жыццё шукае смерць, калі не маніць,
той, хто кажа,
што адсюль блізка да Бога.*

### Венецыя

*Венецыя. Цішыня. Крокі
басаногага дзіцяці
па бруку
напаўняюць рэхам
канал.
Венецыя. Павольнасць. На кутах
муроў прарастаюць
дрэвы і кветкі:
нібыта падарожжа
доўжыцца цэлую вясну,
нібыта травень
цяпер
іх нітку раскручвае
для мяне.
Ля калодзежа камп'ела
час
знаўшоў травінку між камянёў:
звязвае ёю
свае адлікі з крылом
голуба і глухімі ўдарамі
вёслаў.*

### Рака

*О дзень,
о рака,
о непапраўнасць сыходу —
расце на тваіх берагах хлусня
быццам цвёрды жвір —
паўстае ў тваім вусці белая
пахавальня для тваіх
хваляў —
о дзень,
о рака,
ці непапраўнасць сыходу,
што працінае душу —
о душа мая
у абранай самоце,
бо жывая ўваходзіш
у сваю труну.*

### Снег на гары Грапа

*О, вялікі алтар Грапы, падстаўлены
даляглядам
з белым мармурам
снегу,
з вянкамі голых ружоўнікаў
і кіпарысаў,
што павольна падымаюцца па лесвіцы
узгоркаў — па яго баках —
о, вялізная гара, раскінутая
над зямлёй,
як рукі героя юнага,
што ў цішыні ахвяруе
сабой —
не ад сонца,
а з глыбіні твайго сэрца,
з крыві,
што прыняло тваё каменнае сэрца,
прамень нарадзіўся,
што асвятляе цябе па вечарах —
і аблокі над табой
як запаленыя ліхтары
ля парога нябёсаў.*

### Думка

*Мець два доўгіх крылы
ценю
і схіліць іх над гэтым тваім болем;
быць ценем, спакоем
вечаровым
вакол тваёй пагаслай
усмешкі.*

### Смерць паравіны

*Усю ноч ішоў дождж
па ўспамінах пра лета.
У цемры мы выйшлі
пад смутны грукат камянёў,
спыніліся на беразе
і свяцілі ліхтарамі,
правяраючы бяспеку мастоў.
На досвітку мы ўбачылі на правадах
змоклых запэцканых ластавак,
што вышуквалі таемныя знакі адлёту —
і адлюстроўваліся на зямлі
абліччамі, распушчанымі ў фантанах.*

### Малітва

*Божа, ці чуеш,
што не маю болей голасу,
каб паўтараць
тваю таемную песню.
Божа, ці бачыш,
што не маю болей вачэй
для твайго неба, для тваіх аблокаў
суцяшальных.
Божа, за ўсе мае слёзы
вярні мне хоць кроплю Цябе,
каб я ізноў ажыла.
Бо ты ведаеш, Божа,
што ў далёкія часы
і я захоўвала ў сэрцы
цэлае возера, вялікае возера —
Тваё люстэрка.
Але ўсю ваду з мяне выпілі,
о Божа,
і цяпер у сэрцы
маім пустая пячора
да Цябе сляпая.
Божа, за ўсе мае слёзы,
вярні мне хоць кроплю Цябе,
каб я ізноў ажыла.*



Фота Аксаны Данільчык

# Світанак



Сальваторэ Дзі МАРЦО
(Нар. у 1990 годзе)

### Ікар

*У сэрцы мора ёсць лабірынт:
не чую, не бачу голас, што кліча,
не адчуваю святла,
што даходзіць ад сонца.
Каменнае сэрца маё —
вапняк порысты, голы,
вадою размыты.
Упаў на дно сэрца мой лабірынт,
быў скрадзены ветрам
голас далёкі,
што кліча і не маўчыць,
пакуль не маўчыць у глухой цішыні,
што ўскалыхвае мора.
Павекі бліскучыя, і хваля,
што сон мой турбуе самотны,
разлітае сонца працэджвае з неба
у мора, на дно, а вечны пясок,
набрыняла святлом, уздымаецца,
круціцца ў хвалях,
і не маўчыць голас, што кліча,
што плача: — Ці чуеш ты спеў мой,
ці чуеш? мацнейшы за хвалі цяжар...
ён цябе скаланае;
ці чуеш? — Трымценнем пакорлівым,
шчырым на дне скамянелым у сэрцы.
— Ці бачыш, як сонца далоні змываюць
з вачэй тваіх солі нарасты?
Ты, пахаваны ў пяску між магілаў,
руінаў і смецця,
ценем накрыты марскім; ці бачыш?*

### Світанак

***Аксане Данільчык***

*«Ноч крылом пастукала ў дзверы,
вецер сілай тузае прабой,
застанецца ўсё, што на паперы,
ўсё, што ў сэрцы, забяру з сабой».*
***(Ларыса ГЕНІЮШ,
«Залатая сонца калясніца»)***

*Гэта ўсяго толькі голас,
што гучыць у паветры, — рушыць
напружаны хор і гамоніць
між снапамі пшаніцы;
спыняецца, на імгненне прыснулы,
але прачынаецца
і крочыць за марай сваёй.
І праўда, Аксана, сэрца
жывіцца хуткім святлом,
што патухне ў гэтых
начах. І ўсё ж такі хтосьці
пачуў гэты знак,
і ў ім абудзілася думка.
Слухаю вершы твае, мову,
за тую старэйшую,
што бруіцца на вуліцы:
доўжацца ўсё яшчэ
самыя доўгія чорныя суткі,
цемра начная
(сонная* ***livida palus****,
ты страціла глей свой самы
пяшчотны); і, можа, пакуль
я не чую, як разбіваюць
пячаткі нябёсаў, і як трубы гудуць.
А хтосьці сказаў:
— Вы вольныя жыць,
а калі прыйдзе час — памерці:
ніхто на зямлі не можа пазбавіць
вас веры. І тыя не маюць
улады прымусіць
памерці душу або сэрца;
яны маюць толькі загад,
пусцейшы, чым знак
жывы, старажытны, праўдзівы.
Што гэта за мова,
Аксана? Не ведаю словаў,
што розум спасцігнуў.
Упала з нябёс тое зерне ў раллю;
не ведаю словаў,
але маюць думкі
адныя і тыя ж вытокі.
Прагулялі адзенне самае светлае
сыноў чалавечых,
і помнікі свае захінулі;
а потым накрылі
нас простымі словамі,
знойдзенымі на вуліцы,
хтосьці прыйшоў ізноў,
ды холад адчуў
пад чужым дзіравым плашчом.
Не, было і дабро:
уначы зямля мае
больш цёплы смак (але не ў тую
бясконцую доўгую ноч).
Б'ецца ў нашых грудзях
зямля, цнатлівая зямля
дыхання і попелу,
і світанак расхрыствае дзверы:
няма нічога
пяшчотней агню,
што жывіць сэрца (радасна спала
балота прыгожае ўранні):
вось, сяброўка
далёкая, чым мы ёсць;
і, можа быць, мы таксама
прачнемся, калі ўбачым
з палёгкаю над сабой
залатую каляснíцу
ў чэраве яснага неба.*

### Сарамлівасць

*Не дакранайся,
калі твае вочы вэлюм туманіць,
скура, якую шукаеш
і па якой ты сумуеш
(твае грудзі, мае грудзі)
абмалёўвае толькі форму твара.
Ты пра гэта не ведаеш
і не разумееш;
толькі абдымкі ў свеце,
які ты пакуль не бачыш,
здолелі б ачысціць
твой позірк ад дыму,
што зацягвае пакуль твае думкі.
Гэта пачатак.
З-пад украсы вэлюма
я бачу цябе
прыплюшчанымі вачыма,
сузіраю:
гэты храм самы зялёны
і яркі,
таемная песня ценю
другой паравіны,
квецень зламанай галінкі,
што ўпала на зямлю між кветак.
Але, можа быць,
у спелага часу хадзе
гэта будзе толькі ўдар
ад глухога падзення
апошняга лісця,
сарванага ветрам з галіны слабой.*

***Пераклад з італьянскай
Аксаны ДАНІЛЬЧЫК.***

# Васіль Быкаў: «Чаму рускія не могуць зразумець украінцаў»

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак 1995 года Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз пра менталітэт грамадства, лёс дэмакратыі, спадчыну сацыялізму, расслаенне нацыі і нацыяналізм.**



Фота Сяргея Шапрана

***— Васіль Уладзіміравіч, неаднаразова ў вас гучала думка наконт таго, што наш народ яшчэ недастаткова палітызаваны. Гучыць «у піку» агульнажурналісцкаму штампу, што, маўляў, наша грамадства надзвычай спалітызаванае і стамілася ад гэтага. У якім сэнсе, па-вашаму, грамадства яшчэ недапалітызаванае, і якой, адпаведна, палітычнасці яму бракуе?***

— Сучасны стан нашага беларускага грамадства дае падставы гаварыць пра яго як пра грамадства апалітычнае. Калі б яно было ў дастатковай меры палітызаванае і ўсведамляла ўласную ролю ў гісторыі Беларусі, дык у нас не мелі б месца такія прыкрыя з'явы, якіх не бывае ў нармальна палітызаваным грамадстве. А менавіта: значныя палітычныя падзеі расцэньваліся б адэкватна і не блыталіся б з другараднымі (параўнайце рэакцыю насельніцтва на абвяшчэнне суверэнітэту рэспублікі і на аднаразовае павышэнне кошту заводскага харчавання), не было б негатыўных адносін да свае нацыянальнае мовы і культуры.

Палітызаванае грамадства не паставіла б паўтысячы аднолькавых помнікаў чужому правадыру і без дыскусій зразумела б, чаму цяпер іх трэба прыбраць.

Урэшце, палітызаваныя грамадзяне інакш бы паставіліся да выбараў у парламент... «А што ад таго (ад выбараў, рэферэндумаў і да т. п.) — пабольшае каўбасы?» — вось вынік тае палітызацыі наадварот, якая і цяпер дае самыя шырокія магчымасці для маніпуляцыі народнаю воляю ўсім, хто наверсе, — ад камуністаў да дэмакратаў, якія, зрэшты, шырокія масы проста не навучыліся адрозніваць між сабой.

Не, такое грамадства — класічны прыклад апалітычнасці.

***— Апошнім часам, здаецца, наша грамадства, не паспеўшы зрабіцца праўдзіва палітызаваным, ужо пазбаўляецца ілюзій наконт магчымасці хуткага ўсталявання справядлівай і гуманнай улады... Ці не былі перабольшанымі нашыя спадзяванні на хуткае, імгненнае ўсталяванне дэмакратычнага ладу? Відаць, надыходзіць пераломны момант, калі трэба прымірыцца з тым, што яшчэ не хутка ўсталюецца дасканалая ўладавая структура?***

— Правільна. Тая эйфарыя была, канешне, фальшывай, неабгрунтаванай. Справа ў тым, што камуністычны лад і камуністычная па сутнасці псіхалогія панавалі ў нас ледзь не стагоддзе. У яе атмасферы выхаваўся пэўны менталітэт грамадства. Ліквідаваць, зжыць гэты менталітэт за некалькі гадоў немагчыма. Для таго павінна адбыцца змена пакаленняў.

Мы бачым, што пабудова дэмакратычнага грамадства, апроч іншага, моцна ўпіраецца ў псіхалогію. Нават нашы дэмакраты (несумненна, лепшыя сярод нас людзі, і людзі разумныя), якія хочуць быць іменна дэмакратамі, але... яны такімі быць не могуць. Яны суб'ектыўна не могуць быць такімі, хоць бы таму, што цяжка зжыць не толькі камуністычную ментальнасць, але і тое імперскае, шавіністычнае мысленне, якое ёй спадарожнічае... Каб пазбавіцца ўсяго гэтага, мусіць, патрэбен час.

***— Баюся, Васіль Уладзіміравіч, што каб пераадолець спадчыну сацыялізму, — тут чалавек, мусіць, не здольны нешта выправіць; тут, відаць, без другога прышэсця не абысціся...***

— Можа, і так. На гэты конт я цёмны чалавек. Я не ведаю, не магу нічога прадбачыць. Як не можа прадбачыць ніхто, хоць людзі заўсёды вызначалі пэўны накірунак. Аднак усе тыя «вызначальнікі» вельмі хутка банкрутавалі. Сёння сумленны чалавек можа толькі развесці рукамі, а калі нехта паказвае, куды «трэба» ісці, то гэта альбо авантурыст, які робіць тое ў карыслівых мэтах, альбо проста недалёкія людзі, каторым здаецца, што яны нешта ведаюць. На самай справе ўсё гэта вельмі цьмяна, таму што, па-першае, чалавек сам сябе не ведае, а па-другое, ён зменлівы... Здаецца, Пазаліні ці Антаніёні, нехта з іх, зняў фільм на антычную тэму, нешта з жыцця Нерона. Пасля ў рэжысёра спыталіся, што самае цяжкае: аднавіць дэкарацыі тагачаснага жыцця ці рэканструяваць псіхалогію антычнага чалавека. Ён адказаў, што самае цяжкае — аднавіць псіхалогію, таму што псіхалогія зменлівая. У мастацтве гэта ўвогуле амаль немагчыма. Элементарны прыклад, каторы прыходзіць на памяць: Сенека. Яму імператар выказаў сваё незадавальненне. Што зрабіў Сенека? Пайшоў змагацца супраць імператара? Не, ён пайшоў дамоў і выпіў цыкуту — ад таго, бачыце, што імператар яго разлюбіў...

***— Вы ўсё-такі дазваляеце сабе разважаць над такімі рэчамі, як другое прышэсце?***

— Пра гэта я нічога не думаў, я кажу, што цёмны ў гэтым сэнсе чалавек...

***— Тады застаецца палітыка: пра палітыку разважаць і гаварыць звыклей. Ужо даўно чуваць развагі, што, маўляў, галоўная бяда Беларусі — у тым, што ў як няма агульнанацыянальнага лідэра. Вы верыце ў такі сродак вырашэння нашых грамадскіх праблем?***

— Яшчэ кажуць — у палітыцы трэба прафесіяналы. Баюся, што не прафесіяналы тут патрэбны. У многіх выпадках трэба якраз не прафесіяналы. Трэба проста чалавек з боку. Вядомы даўні выпадак: калі Форд будаваў сваю вытворчую імперыю, узнікла нейкая тэхнічная праблема, і яго спецыялісты не маглі яе вырашыць. Тады ён запрасіў інжынера, які ніколі не меў справы з аўтамабілямі, але лічыўся надзвычайным спецыялістам. І ён хутка вырашыў тую праблему. Чаму? Таму што яго вырашэнне было свабодным ад усялякіх стэрэатыпаў... Так можа быць і ў палітыцы. Трэба найперш чалавек, каторы валодаў бы здаровым сэнсам. Вось калі ўзяць, дапусцім, Масарыка, ён мне вельмі даспадобы.

Мне здаецца, у нас мала вывучаюць вопыт міжваенных дзяржаў, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Аўстрыі... Тады, пасля Першай сусветнай вайны, у лідэры прыйшлі вельмі сімпатычныя людзі — і ў Чэхаславакіі, і ў Польшчы. Хай генерал, маршал — Пілсудскі, — але як жа ён адбудоўваў Польшчу ў тых умовах? Яны не былі «прафесіяналамі ад палітыкі», але, тым не менш, паспяхова будавалі свае нацыянальныя дзяржавы. Чэхі памятаюць народнасць, прастату Масарыка. Пры ім міністры ездзілі на працу на трамваі — не таму, што не маглі пакарыстацца персанальным аўтамабілем, а таму, што гэта было непрыстойна. І небагатыя яны былі людзі. Яны служылі найперш нацыі, таму так сябе паводзілі. А нашыя каму служаць?..

***— Сёння мы кажам пра расслаенне нацыі; то ці можа быць у такіх умовах універсальнай каштоўнасцю «здаровы сэнс»?***

— «Здаровы сэнс» сёння нацыяй страчаны, і гэта прыкра...

***— Нават у палякаў, якія, па сутнасці, распачалі змаганне з камунізмам у сацыялістычным лагеры — прыканцы 70-х, — няма агульнанацыянальнага лідэра. Былыя камуністы цягнуць за сабой ладную частку грамадства...***

— Таму што дыферэнцыяцыя грамадства адбылася. У цэнтральнаеўрапейскіх дзяржавах былі, канечне, свае супярэчнасці, але раней іх нацыі былі нечым з'яднаныя больш, чым цяпер, скажам, тая ж Польшча. Вот калі туды прыйшлі камуністы, дык, натуральна, яны перш за ўсё выкарысталі ўсе сродкі, каб нацыю раскалоць на кавалкі. Таму што толькі ў такім стане яны здольныя ўтрымліваць уладу. І яны за пяцьдзясят гадоў гэта зрабілі. А да камуністаў нацыя была з'яднаная. Нават немцы, акупаваўшы Польшчу, не змаглі (ці не схацелі, як часам кажуць) стварыць там масавую калабарацыю і ўгоднае самакіраўніцтва. Гэта ж пра многае сведчыць. Праўда, там былі касцёл, рэлігія, што аб'ядноўвалі нацыю. А ў нас нават і рэлігія не можа аб'яднаць, таму што ва ўмовах двухканфесійнасці якое можа быць аб'яднанне? Ды яшчэ драбленне па сацыяльным стане, нацыянальнай прыналежнасці, іншае...

***— Камунізм захапіў Беларусь суцэльна...***

— Ён, камунізм, увесь час імкнуўся трымаць народ у нейкім маналітным лагеры, не зважаючы на нацыянальнасці. Было адно вялікае дзяленне на камуністаў і беспартыйных (як у Афрыцы — на белых і чорных). У той час як камуністы валодалі ўсімі правамі і магчымасцямі, беспартыйныя не валодалі і іх палавінай... Ідэалагічны таталітарызм выхоўваўся ці не з дзіцячага садка: акцябраты, піянеры, камсамольцы... Гэта былі, па сутнасці, сапраўдныя дзяржаўныя секты, з іх унутранай ідэалогіяй і дысцыплінай. Тое было ў інтарэсах дзяржавы і партыйнага кіраўніцтва...

***— Але зноў-такі, за апошнія дзесяць гадоў «галоснасці» столькі напісана пра рэпрэсіі, ГУЛАГ, што дзіву даешся, як грамадства — «самае чытэльнае» — не баіцца паўтору таго, што было пры савецкай уладзе — вынікі апошніх выбараў сведчаць пра тое... Чаму ж людзі нічога не баяцца?***

— Яны нічога не баяцца, таму што грамадства па-ранейшаму застаецца неінфармаваным. Як вядома, на пачатку перабудовы гучала шмат патрабаванняў (з боку расійскіх дэмакратаў), каб кампартыя пакаялася ў злачынствах, адмовілася ад свайго злачыннага мінулага. Гэтага не было зроблена. Усе хрушчоўскія выкрываньні сталінізму былі частковымі, бо пераключаліся толькі імёны рэпрэсаваных маршалаў і кіраўнікоў, а пра народ — маўчалі. Таму ў масавай свядомасці рэпрэсіі так і засталіся рэпрэсіямі кіраўніцтва супраць кіраўніцтва, а не ўлады супраць народа...

Колькі Алесь Адамовіч заклікаў «дадумваць да канца»! А ў нас гэта ніяк не дадумана. Канцы і пачаткі нашай бяды дзесьці ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а можа, і яшчэ раней... І прычына нашай галоты не ў «разбурэнні сувязей паміж прадпрыемствамі», а ў тым, што ў 1917 годзе адбылася жахлівая рэвалюцыя, і Расея, разам з нацыянальнымі ўскрайкамі, улучна з Беларуссю, пайшла не ў тым кірунку. Мы пайшлі абсалютна ў тупіковую галіну і ўперліся ўрэшце ў тупік. І цяпер як вярнуцца назад? Гістарычны час гэта выключае. Як зноў збочыць у агульнае русла зямной цывілізацыі — не ведае ніхто...

Вот таму гэта ўсё мы і перажываем. І павінны перажыць. У гэтым сэнсе самае цяжкае — разбурэнне найбольш агульнага, боскага прынцыпу прыватнай уласнасці. З яго ўсё пачынаецца. Калі прыватную ўласнасць панішчылі, панішчылася ўсё... Бо чалавек ад жывёлы адрозніваецца тым, што здольны нечым валодаць і распараджацца. Нават леў, сабака «мецяць» сваю тэрыторыю, свае ўладанні... Прырода толькі тады дасць нейкі плён, калі яна будзе камусьці належыць. А ў нас праца людзей і ўласнасць не толькі абяздушаны, але і незаконным чынам прысвоены, можна сказаць, антылюдзьмі, нечалавекамі. Пры сацыялізме ўласнасцю народа распараджалася Палітбюро, купка людзей. З гэтага пачался ўсе няшчасці... І пагэтаму, каб вярнуцца ў ранейшае становішча, уласнасць трэба раздаць канкрэтным людзям. Толькі як гэта зрабіць па справядлівасці? Ёсць жа ў матэматыцы задачы, якія не маюць рашэння. Баюся, што такая ж праблема зараз у нас з уласнасцю: яна не мае свайго справядлівага вырашэння — вот у чым нявыкрутка...

***— Для гэтага павінны распрацоўвацца рэформы...***

— Рэформы павінны быць... Каму будзе належыць уласнасць — заходнім банкам ці расейскім канцэрнам — у гэтым БНФ і Лукашэнка разыходзяцца. БНФ лічыць, што лепш, калі гэта будзе належаць цывілізаваным заходнім банкам, чым ненажэрным усходнім канцэрнам. Але, па сутнасці, і тое і другое кепска. Лепш, калі яно будзе належаць нам. Але лічыцца, што апошняе — «нацыяналізм»...

Нацыяналізм, канечне, пастараліся скампраметаваць, найперш нарабіў жаху нямецкі нацызм... Але правільна гаворыць амерыканскі філосаф Ёсіхіра Фрэнсіс Фукуяма, гэты апошні «адвакат нацыяналізму», як яго называюць на Захадзе: само паняцце нацыяналізму заключае ў сабе вельмі шмат, ад самага высакароднага да самага ганебнага. І трэба канкрэтна меркаваць пра кожны канкрэтны нацыяналізм. Фукуяма кажа пра нацыяналізм рэспублік былога СССР як абавязковую перадумову крушэння таталітарызму. Г. зн., што толькі нацыяналізм можа эфектыўна змагацца з расейскім камуністычным рэжымам. Далей ён піша, што нацыяналізм і заходні лібералізм могуць выдатна ўжывацца, дапаўняючы і ажыўляючы адзін аднаго. А ў нашай масавай свядомасці нацыяналізм — гэта страшна, ім палохаюць. Прычым не толькі камуністы, але і некаторыя дэмакраты, ім мроіцца Югаславія, Каўказ, Сярэдняя Азія, і яны гэта адпрэчваюць. У тым ліку і расейскія дэмакраты. Вот чаму рускія не могуць зразумець украінцаў...

*Чэрвень 1995 г.*

# Шаўчэнкаўская прэмія

Традыцыйна 9 сакавіка, у дзень нараджэння ўкраінскага Кабзара, адбылося абвяшчэнне лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі імя Тараса Шаўчэнкі.



У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Украіны №118 / 2022 «Аб прысуджэнні Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі» на падставе прадстаўлення Камітэта Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі Прэзідэнт Украіны Уладзімір Зяленскі пастанавіў:

1. Уручыць Нацыянальную прэмію Украіны імя Тараса Шаўчэнкі ў 2022 годзе (сярод пісьменнікаў):

Грабовічу Георгію Рыгоравічу, літаратуразнаўцу, грамадзяніну Злучаных Штатаў Амерыкі — за цыкл артыкулаў «Пераасэнсаванне Паўла Тычыны — пераасэнсаванне ўкраінскага мадэрнізму»;

Дудзі Тамары Анатольеўне, пісьменніцы — за раман «Док»;

Рабчуку Мікалаю Юр'евічу, пісьменніку — за кнігу «Нацыяналістычны лексікон і іншыя нарысы»;

2. Устанавіць памер Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі на 2022 год у памеры 397 000 грыўнаў.

Нацыянальная прэмія Украіны імя Тараса Шаўчэнкі (Шаўчэнкаўская прэмія) — вышэйшая дзяржаўная творчая ўзнагарода Украіны за значны ўклад у развіццё культуры і мастацтва. Заснаваная ў 1961 годзе. Прысуджаецца за найбольш выдатныя творы літаратуры і мастацтва, публіцыстыкі і эсэістыкі, якія з'яўляюцца вышэйшай духоўнай спадчынай украінскага народа, сцвярджаюць высокія гуманістычныя ідэалы, узбагачаюць гістарычную памяць народа, яго нацыянальную свядомасць і самабытнасць, накіраваны на дзяржаўнасць і дэмакратызацыю украінскага грамадства.

# Прэмія імя Шолам-Алейхема

Лаўрэатам прэміі імя Шолам-Алейхема стала Аляксандра Уралава за пераклад кнігі Аўрома Суцкевера «З віленскага гета. Зялёны акварыум».

Прэмія імя Шолам-Алейхема ўручаецца за папулярызацыю духоўнай і культурнай спадчыны яўрэйскага і ўкраінскага народаў. На думку членаў камітэта прэміі, кніга Аўрома Суцкевера, аднаго з самых вядомых пісьменнікаў, які запісаў трагічны яўрэйскі вопыт XX стагоддзя на ідыш, — гэта бліскучая паэтычная проза, якой у сучаснай культуры вельмі мала.




Асобна адзначана Юлія Вярба за раман у чатырох кнігах «Адэская сага» і Юрый Чарней за за кнігу «Вернон Крэс. Жыццё пад прыкрыццём», Аляксей Нікіцін за раман «З твару агню» і Ярослава Стрыха за пераклад кнігі Ісаака Башэвіса Зінгера «Раб. Шоша».

Прэмія імя Шолам-Алейхема прысуджаецца на конкурснай аснове пісьменнікам, перакладчыкам, сцэнарыстам, драматургам за лепшыя літаратурныя і мастацкія творы, якія прапагандуюць духоўную і культурную спадчыну ўкраінскага і яўрэйскага народаў і спрыяюць пазітыўнаму іміджу Украіны ў свеце.

# «Чыстая кніга»

Агучаны імёны пераможцаў другога сезона Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Фёдара Абрамава «Чыстая кніга».

Арганізатары атрымалі 86 заявак з 36 рэгіёнаў Расіі. Пераможцаў вызначыла экспертная рада на чале з пісьменнікам Сяргеем Шаргуновым шляхам свабоднага галасавання.

У галоўнай намінацыі «Сучасная проза» лепшымі сталі Максім Замшаў за раман «Канцэртмайстар» і Зінаіда Лонгатава за аповесць «Шлях ад Абі. Пад крылом Маці Вароны».

«Максім Замшаў тонка і дакладна напісаў пра тое, што цудоўна ведае, пра свет музыкі, які неадрыўны ад трагічнага ходу гісторыі… Сямейная аповесць «Шлях ад Абі. Пад крылом Маці Вароны» кранае за душу шчырасцю інтанацыі і сумленнай, без прыкрасаў выявай цяжкага людскога лёсу. Усё гэта несумненна – чыстыя кнігі!», – распавёў пра пераможцаў Сяргей Шаргуноў.

Уладальніцай прэміі ў намінацыі «Літаратурная крытыка» стала Валянціна Іванова за кнігу «Спадчына Валянціна Распуціна ў сучаснай іркуцкай літаратуры».

Таксама былі абвешчаныя імёны пераможцаў у спецыяльных намінацыях. Анастасія Астаф'ева за зборнік апавяданняў «Для асаблівага выпадку» ўганаравана спецпрызам «За захаванне і развіццё традыцыйных ідэалаў і каштоўнасцяў айчыннага пісьменства». Сяргей Дамарошчанаў за кнігу «Вялікі шчаслівец. Біяграфія Фёдара Абрамава» атрымаў прэмію «За ўклад у вывучэнне і прапаганду творчасці Фёдара Абрамава».

Узнагароды пераможцы прэміі «Чыстая кніга» імя Фёдара Абрамава атрымаюць у Архангельску падчас кніжнага фестывалю «Белы чэрвень».




# «Сакавіцкі каціны літдзень»

На сакавік прыпадае сусветны Дзень котак. А паколькі коткі нязменна дэманстравалі шырыню поглядаў і добры літаратурны густ, нядзіўна, што шматлікія пісьменнікі атачалі сябе гэтымі незалежнымі і грацыёзнымі стварэннямі.

Напрыклад, амерыканскі пісьменнік Сэмюэл Клеменс, які шырока вядомы свету як **Марк Твэн**, заўсёды любіў котак: яны з юных гадоў атачалі падшыванца Сэма. Стаўшы бацькам, ён настойваў, каб дзятва і жывёлы раслі разам, і расказваў сваім дочкам, што браты нашыя меншыя (і сёстры) нашмат цікавейшыя за людзей.

Літаратар дазваляў сваім дзяўчынкам шмат часу надаваць чарапахам, вавёркам, сабакам і коткам, якія жылі ў іх сядзібе ў Канэктыкуце.

Пазней, калі да яго прыйшла слава, Марк Твэн адзначыў: «З усіх божых стварэнняў толькі адно не створана для рабства. І гэта котка. Калі б людзі маглі скрыжоўвацца з коткамі-катамі, гэта моцна палепшыла б чалавека, але пагоршыла б кошак». І стала ясна, што з усіх жывёлаў ён аддае перавагу коткам, у прыватнасці, ільвіная доля ўвагі пісьменніка даставалася кацянятам. Ён тлумачыў: «Я проста не магу супраціўляцца котцы, асабліва варкатанню. Гэта самыя чыстыя, хітрыя і самыя разумныя стварэнні, якіх я ведаю, за выключэннем жанчыны, якую кахаю, відома».

Сямейства каціных у Сэмюэля Клеменса (Марка Твэна) пастаянна было вялікае, прычым усе атрымлівалі вельмі арыгінальныя імёны: Апалінарыс, Гекльберы, Сейтан (Сатана), Блэтэрскайт (Балаболка), Сін (Грэх), Зараастр, Тамані ды іншыя. Тое ён тлумачыў: «Называў зусім не з непрыязнасці, а проста дзеля таго, каб навучыць сваіх дзяцей прамаўляць доўгія і цяжкія словы».

Яго родныя ўспаміналі, што, калі ён злаваўся, то нават фыркаў, як кот, а яго дочкі тады называлі свайго тату «злосныя шэры каток», нярэдка нават спецыяльна правакуючы бацьку на фыркання.

А найбуйнейшы французскі літаратар, паэт, драматург і кінарэжысёр **Жан Както** лічыў, што коткам уласцівая містыка – яны разумеюць у гэтым жыцці значна больш, чым іншыя людзі, паколькі бачаць звычайныя рэчы ў крыху іншым святле. Тых, хто падтрымлівае гэтыя яго перакананні, літаратар заклікаў уступіць у створаны ім «Клуб сяброў котак», спецыяльна для якога прыдумаў эмблему і значкі. Паняцце «сябры» не мела на ўвазе адно ўладальнікаў або гаспадароў гэтых жывёл.

Нягледзячы на такое далікатнае стаўленне да котак, гэтыя стварэнні ў творах майстра не згадваюцца, выключэннем можна назваць толькі некалькі паэтычных радкоў.

Нобелеўскі лаўрэат **Эрнэст Хэмінгуэй** таксама быў вялікім котачнікам. Пачаткам такой любові стаў выпадак, калі ў 1935 годзе сябар – капітан Стэнлі Дэкстэр – прывёз яму пацешнае кацяня пароды мэйн-кун, але з шасцю «пальцамі» на лапах (такіх катоў лічаць талісманамі маракоў і паляўнічых, а знакаміты амерыканскі пісьменнік і журналіст захапляўся гэтымі заняткамі). Да гэтага літаратар любіў небяспечныя для жыцця забавы і выпіўку, але пасля таго, як яму падарылі кацяня, у Хэмінгуэя з'явілася і яшчэ адно захапленне. Пухнатага гадаванца пісьменнік назваў Сноўбол, што азначае Сняжок. Літаратар казаў: «У ката абсалютная эмацыйная сумленнасць: людзі з той ці іншай прычыны могуць хаваць свае пачуцці, але котка гэта не робіць».

З таго часу ў сядзібе Хэма каты не пераводзіліся, а да канца Другой сусветнай вайны іх было ўжо больш за дваццаць. Ён наогул не мог працаваць, калі на яго стале каля друкаркі не буркатала якая-небудзь з котак. І калі ў 1920-я гады ён пісаў, што яны з жонкай былі такія бедныя, што нават «не маглі дазволіць сабе завесці котку», то да канца жыцця яго атачала 57 гадаванцаў – проста кацінае царства! Бо сапраўднымі гаспадарамі ў ягоным доме заўсёды былі менавіта яны.

І сёння ў доме-музеі Хэмінгуэя даглядаюць каля 60 нашчадкаў тых, каго некалі прытуліў Хэм…

Паэт **Іосіф Бродскі** колісь сказаў Людміле Штэрн: «Звярні ўвагу – у котак няма ніводнага непрыгожага руху». Яго таксама з ранняга ўзросту атачалі гэтыя стварэнні. У хлопчыка жыла неяк котка Маруся, з-за якой ён стаў цягнуць у некаторых словах галосныя на каціны манер: «Мяса было адным з такіх слоў, і да маіх 15-ці гадоў у нашай сям'і стаяла суцэльнае мяўканне. Бацька аказаўся да гэтага вельмі схільным, і мы пачалі зваць адзін аднаго "вялікі кот" і "маленькі кот"». Жывучы з бацькамі ў Ленінградзе ў камунальнай кватэры «Паўтары пакоі», Бродскі таксама трымаў ката, прычым пакасчыкам добрага настрою паэта да госця было пытанне: «Хочаце, я разбуджу вам ката?».

Калі Бродскі быў змушаны з'ехаць з СССР і пачаў жыць у ЗША, яго сталымі спадарожнікамі сталі жонка Марыя і кот Місісіпі. Пётр Вайль згадваў, што пісьменнік і Місісіпі не расставаліся, таму жонка так звала іх на абед: «Гэй, каты, ідзіце сюды!», а яны тут жа адклікаліся.

Скандальна вядомы амерыканскі пісьменнік **Чарльз Букоўскі** таксама быў неабыякавы да сямейства каціных: гэтая яго любоў амаль пераўзыходзіла яго схільнасць да выпіўкі ці сэксу. У «Гісторыі аднаго ўпартага сукінага сына» пісьменнік прызнаўся, што менавіта каты, а не выпіўка і жанчыны, служылі ў якасці крыніцы натхнення. У 1987 годзе ён распавёў выданню «Interview»: «Добра мець цэлую шмат катоў вакол. Калі адчуваеш сябе дрэнна – паглядзі на котак, тады табе стане лепш, бо яны ўсё ведаюць, ведаюць такім, якое яно ёсць на самой справе. Іх нічым не здзівіш. Яны проста ведаюць».

Папулярны брытанскі сатырычны пісьменнік-фантаст сэр **Тэрэнс Дэвід Джон Пратчэт** шматкроць казаў, што не бачыць сваё жыццё без котак, а ў яго жыцці прысутнічалі два віды котак: «літаратурныя», якія жылі ў ягоных кнігах, і «з плоці і крыві», якія жылі з ім у доме. За ўсё сваё жыццё Пратчэт трымаў шэсць котак, адна з першых стала жыць у яго ў 1970 годзе, атрымаўшы незвычайнае імя Аэдыпусе, што перакладаецца як «Катакомба». Яго раман «Котка без дурняў» прысвячаўся ўласна гэтай яго любіміцы.

Не менш, чым замежныя творцы, любілі (і любяць) каціны род і беларускія пісьменнікі. Варта згадаць мудрых гадаванцаў **Рыгора Барадуліна**, напрыклад, ката Мірона, пра якога нядаўна выйшла паэтава кніга «У ката Мірона чорная карона» і якому «перадаваў прывітанне Васіль Быкаў», а таксама **Анатоля Кудраўца** з мудрай Хмарай ды безліч тэкстаў, найперш вершаў, прысвечаных коткам беларускіх аўтараў.